E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 18 (23) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ЛІСТАПАД 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

## Пазіцыя

### Прапанова віцебскіх ТБМаўцаў

Віцебская абласная рада ТБМ ужо месяц таму звярнулася да абласных і гарадскіх уладаў з прапановамі па ўшанаванні памяці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава – перайменаваць абласную бібліятэку імя Леніна ў бібліятэку імя Васіля Быкава, стварыць музей на радзіме пісьменніка ў вёсцы Бычкі, усталяваць мемарыяльную дошку на будынку колішняй мастацкай вучэльні, дзе вучыўся Васіль Быкаў. Аднак аніякага адказу рада ТБМ пакуль што не атрымала.

Пытанне пра змену назвы бібліятэкі ўздымалася неаднаразова і шырока абмеркоўвалася на старонках віцебскіх абласных выданняў. Хоць пераважная большасць чытачоў выказалася за перайменаванне, бібліятэка па-ранейшаму носіць імя Леніна. Паказальна, што напярэдадні 7 лістапада газета «Віцебскі рабочы» (дзяржаўная) надрукавала «лісты пратэсту» на прапанову абласной рады Таварыства беларускай мовы – ўшанаваць такім чынам памяць славутага пісьменніка-земляка. Аўтары іх – пераважна ветэраны або пенсіянеры. Аргументы іх цалкам савецкага ўзору: «Перайменаваць бібліятэку – гэта перакрэсліць нашае слаўнае ў мінулым жыццё, прынізіць старэйшан пакаленне, якое аддана працавала ды ваявала ў імя нашай вялікай радзімы – СССР!» Якім чынам наданне бібліятэцы імя выдатнага пісьменніка, франтавіка, які аддана працаваў і ваяваў, можа «прынізіць старэйшае пакаленне людзей» – ідэалагічная загадка.



# Брэсцкі гігант

Выбраўшыся ў вольны дзень на экскурсію па гістарычных мясцінах Баранавіцкага раёна, былі мы дужа ўражаны гіганцкай скульптурай, якая з`явілася мо месяц таму, відаць, падчас завяршэння ўборкі ўраджаю, побач хуткаснай трасы Мінск–Брэст, гэтак званай «алімпійкі», пры ўездзе на тэрыторыю Брэсцкай вобласці. Як неабвержна сведчыць здымак, такіх збудаванняў у нашай краіне яшчэ ніколі не было. Скульптурны зубр разоў, можа, у дваццаць, а то і болей, перавышае натуральную велічыню валадара Белавежскай пушчы. Стваральнікі гэтага прыдарожнага цуда пастараліся трымацца канонаў рэалізму, нават не абышлі ўвагай некаторыя анатамічныя адметнасці, якія не дазваляюць памыліцца, што перад падарожнікам менавіта «князь» пушчы, а не «княгіня». Праўда, мясцовыя жартаўнікі, якім даводзіцца кожны дзень бачыць гэты твор мастацтва, далі яму найменне «сляпы зубр», бо ў ім ніяк не пазначаны вочы – люстэрка зубрынай душы. Відаць, патрэбы такой аўтары не мелі. Падысці блізка да гэтага сімвала Берасцейшчыны, прыкладам, каб сфатаграфацца на доўгую памяць, немагчыма, бо на трасе не прадугледжана стаянка, а да зубра яшчэ не пратаптана народная сцяжынка. Скульптура разлічана на агляд праз вакно аўтамашыны пры хуткасным руху. Своеасаблівы міраж моцы, прыгажосці, дагледжанасці, клопату пра культуру, асабліва, для замежнікаў. На вялікі жаль, гэтае атрыманае «на алімпійцы» ўражанне шмат страчвае, калі збочваеш з яе на дарогі абласнога і раённага падпарадкавання і трапляеш на турыстычны маршрут па гістарычных вёсках, дзе зуброў няма і ў паміне, а стан помнікаў культуры выклікае сардэчны боль (гл. мініздымак). І таму гэтая прышасейная манументальная агітацыя нагадвае чамусьці пра знакамітага Пацёмкіна і яго славутыя пабудовы.

Працяг тэмы на стар. 8–9

## Адмоўны прырост насельніцтва

Урад Беларусі ўхваліў нацыянальную праграму дэмаграфічнай бяспекі краіны на 2006–2010 гады. Як паведала міністр працы і сацыяльнай абароны Антаніна Морава, падобны дакумент распрацаваны ўпершыню ў СНГ. Прыярытэтнымі напрамкамі праграмы, па яе словах, з'яўляюцца павялічэнне працяглласці жыцця насельніцтва і аптымізацыя міграцыйных працэсаў у рэспубліцы. Міністр патлумачыла такі выбар тым фактам, што за апошнія 10 гадоў у Беларусі «рэзка скарацілася працягласць жыцця, якая зараз складае для мужчын 63,1 года і для жанчын – 74,3 года». А.Морава канстатавала, што дэмаграфічную сітуацыю ў рэспубліцы характарызуе ўзрослы працэс дэпапуляцыі, калі колькасць памерлых перавышае колькасць народжаных (смяротнасць у Беларусі перавышае нараджальнасць у 1,65 раза). Міністр адзначыла, што калі ў 1993 годзе адмоўны натуральны прырост насельніцтва ў рэспубліцы склаў 11,2 тысячы чалавек, то ў 2002 годзе – ужо 57,9 тысячы чалавек. «Калі не прыняць неадкладных мераў, то насельніцтва Беларусі да 2050 года, як прагназуюць спецыялісты, можа скараціцца ў два разы, прычым на аднаго работніка будзе адзін пенсіянер».

**Інтэрфакс**

## Расце папулярнасць сертыфікатаў

Летам гэтага года сума рублёвых укладаў у беларускіх банках дасягнула трыльёна. У сярэднім кожны беларус прынёс у банк па 100 тысяч рублёў. А ўвосень трыльён пахудзеў на 2%, ці на 20 мільярдаў рублёў. Як патлумачыў прэс-сакратар Нацбанка РБ Міхаіл Журавовіч, зараз сталі больш купляць сертыфікаты банкаў, бо на іх выплачваюць пастаянны працэнт. У адрозненне ад працэнта па рублёвых укладах, ён не залежыць ні ад стаўкі рэфінансавання, ні ад узроўню інфляцыі. Бо ў Беларусі нізкая інфляцыя і стаўка рэфінансавання 28% устаноўлены ўпершыню пасля 1992 года.

## Восеньскі краявід



Сумнае відовішча – глядзець у лістападзе на забытае гаспадарамі сланечнікавае поле. Закранутыя маразамі сцеблі павялі ды пажухлі, семкі вывальваюцца са сваіх гнёздаў... Дык нашто садзілі, нашто марнавалі працадні, чаму забыліся на сваю працу і патрэбу мноства людзей у алеі – загадка нашай рэчаіснасці. Адно добра – птушкі наядуцца.

## Кніга пра знаных ураджэнцаў Беларусі

Пад эгідай ЮНЕСКО навукоўцы Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францішка Скарыны, Нацыянальнай акадэміі навук, міністэрстваў адукацыі і культуры рыхтуюць кнігу «300 ураджэнцаў Беларусі ў дыялагу культур». Кніга паведае пра асобаў, якія нарадзіліся ў Беларусі і ўнеслі значны ўклад у развіццё сусветнай культуры. Сярод яе персанажаў вядомыя ва ўсім свеце асобы – Адам Міцкевіч, Тадэвуш Касцюшка, Станіслаў Манюшка, Марк Шагал. Ёсць тут і асобы, якіх болей ведаюць у свеце, чым у Беларусі. Напрыклад, Лазар Майер – легендарны прадзюсер, адзін з стваральнікаў сучаснага амерыканскага кіно, заснавальнік кінакампаніі «Метро-Голвін-Майер», які адкрыў цэлую плеяду акцёраў, яму абавязаны сваёй славай Марлон Брандо і Мэрылін Манро. А між тым мала хто з гледачоў Беларусі, якія бачылі марку кампаніі на праглядах фільмаў, ведаюць, што Лазар Майер ураджэнец Мінска.

Ініцыятары праекта плануюць выдание кампакт-дыска на гэтую ж тэму

## Будзе новая Мінская тэлевежа



У сродках масавай інфармацыі з'явіліся звесткі пра магчымую будоўлю ў Мінску адной з самых высокіх у свеце тэлевежаў. Міністэрства сувязі атрымала распараджэнне падрыхтаваць да канца года праектную дакументацыю. Згодна з папярэднімі падлікамі вышыня тэлебашні будзе прыкладна 410–420 метраў.

Размовы пра будаўніцтва ў цэнтры Мінска тэлевежы, якая б узнеслася ў неба амаль на паўкіламетра, вядуцца не ўпершыню. Напрыканцы 1990-х гадоў быў абвешчаны конкурс сярод патэнцыйных будаўнікоў. Тады ў тэндэры перамагла кітайская фірма. Шмат хто з архітэктараў лічыць, што пабудаваць тэлевежу магчыма, аднак на першае месца выйдзе праблема фінансавання – трэба знайсці сотні мільёнаў даляраў. Да таго ж будаўніцтва наўрадці стане на рэальную аснову ў бліжэйшы час, бо вядзецца будоўля Нацыянальнай бібліятэкі, якой бракуе фінансавання, у сувязі з чым не спыняецца рэклама пра неабходнасць ахвяравання сродкаў свядомымі грамадзянамі.

Раней Мінскую тэлевежу збіраліся будаваць недалёка ад выставачнага павільёна на пр. Машэрава. Можа, там яна і з'явіцца. Тады Мінск будзе мець вежу, якая саступае толькі Астанкінскай (537 метраў) і Канадскай нацыянальнай вежы ў Таронта (555 метраў). Берлінская тэлевежа будзе саступаць беларускай болей як 50 метраў. Наколькі патрэбны гэтакая грамадзіна Беларусі?

Міністр сувязі Уладзімер Ганчарэнка перакананы, што з будаўніцтвам тэлевежы вырашацца дзве задачы: па-першае, палепшыцца якасць тэлевізійных перадачаў, а падругое, вежа стане сімвалам горада, накшталт Эйфелевай вежы ў Парыжу.

Пакуль што самае высокае збудаванне ў свеце – радыёмачта ў прыгарадзе Варшавы, узведзеная ў 1974 годзе. Яе вышыня – 646 метраў.

## Створана беларуская «Віягра»

Да нядаўняга часу вялікі кошт на чарадзейную «Віягру» псаваў настрой не аднаму беларусу. Сітуацыя, дзякуй нашай медыцыне, змянілася да лепшага. На фармацэўтычным рынку краіны з'явіўся аналаг «Віягры» беларускай вытворчасці. Прэпарат мае назву «Патэнцагра» і прызначаны для стымуляцыі палавой актыўнасці мужчын. Праведзеныя параўнальныя выпрабаванні беларускай «Патэнцагры» і таблетак «Віягра» фірмы Pfizer (цікава дзе, як і па якіх паказчыках праводзіліся выпрабаванні) засведчылі іх біяэквівалентнасць. Новы прэпарат прызначаны для людзей, старэйшых за 18 гадоў (відаць з маральных меркаванняў).

«Патэнцагру», як, дарэчы, і «Віягру» трэба з асцярожнасцю прымаць людзям, якія хворыя на гіпертанію, сардэчную недастатковасць, артэрыяльную гіпертэнзію

«Потенцагра» каштуе ў некалькі разоў ніжэй за імпартныя аналагі, а вынік такі самы.

Таксама вучонымі краіны створана машына для якаснай падрыхтоўкі аэрадромаў для прыёму самалётаў. Тэхніка такога класа выпускаецца, у прыватнасці, у Фінляндыі і Швецыі, аднак яе кошт у пяць разоў большы за беларускі. Машына выконвае поўны комплекс работ па ачыстцы ўзлётна-пасадачнай паласы як ад снегу і галалёду, гэтак і ад рознага бруду.

Так што, каму трэба купляйце беларускае.



## «Вільнюса» не будзе



У Мінску ў наступным годзе кінатэатр «Вільнюс» саступіць месца Палацу спартыўных адзінаборстваў імя трохкратнага алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Мядзведзя. Рашэнне перадаць будынак кінатэатра і танцавальнай залі ўпраўленню па фізічнай культуры Мінгарвыканкама прыняла мэрыя сталіцы. У былой залі дыскатэкаў будуць спаборнічаць барцы, а ў кіназалі ўсталююць баксёрскі рынг. Тут будуць праводзіцца спаборніцтвы рэспубліканскага ўзроўню, што, на думку аўтараў такога рашэння, паспрыяе прапагандзе і развіццю спорта. Зразумела, што назва «Вільнюс» знікне з будынка. Аднак цікава, ці застануцца пасля гэтага паказальнага ўчынка гандлёвыя цэнтры «Рыга» і «Талін», якія раней разам з «Вільнюсам» сімвалізавалі братэрскія сувязі прыбалтыйскіх рэспублік з Беларуссю?

**Сяргей КУРАК**

# Ці варта нам вяртаць?

***У нашай краіне безліч культурных каштоўнасцяў ляжаць у сховішчах, мы не навучаны паважаць іх і ганарыцца імі. Ці можна лічыць нас культурнымі ў стаўленні да нашай культуры?***

**Ад рэдакцыі**

У сваім інтэрв'ю знаны спецыяліст Надзея Высоцкая ўздымае вельмі важную праблему - стаўленне да культурнай спадчыны ў грамадстве і з боку ўладаў. З дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе ў нас не хапае плошчаў, каб паказаць народу тое, што мы маем у музейных сховішчах, у нас не выпрацавана павага да набыткаў мастацтва, працяглы час мы толькі страчвалі, звыкліся да таго, што ўлады і стыхіі разбураюць архітэктурныя помнікі старажытнасці, што існуе забарона на імёны і г. д. Таму праблема «вяртання» найперш датычыць нас саміх - выхавання нацыянальнай свядомасці, павагі да спадчыны, цікавасці да яе. Без гэтага любая музейная экспазіцыя, любыя багацці пакрываюцца пылам. Недалёка адышоў той час, калі ў асяроддзі інтэлігенцыі хадзіў сумны жарт: каб у саракавым годзе Вільню аддалі нам, то там усё зруйнавалі б, як мінскую Нямігу. Ці даўно дзесяткі тысяч тамоў валяліся ў зачыненым касцёле на Залатой Горцы ў Мінску, а мы жаліліся, што бібліятэка Храптовіча на Украіне, а бібліятэка Радзівілаў у Ленінградзе? Зразумела, што заўжды ў грамадстве будзе слой людзей, якія разумеюць духоўную небяспеку абыякавасці да нацыянальнай культуры. Важнасць мае ўплывовасць гэтага слоя на грамадскія настроі. Цяпер яна надта малая. Ну, і што рабіць? Абмеркаванне гэтай тэмы мы будзем працягваць і ў наступных нумарах.

У выніку шматлікіх войнаў, падзелаў і перадзелаў нашай тэрыторыі безліч твораў беларускай культуры апынуліся ў музеях і калекцыях суседніх краін. Часам менавіта экспанаты беларускага паходжання складаюць гонар музеяў Польшчы, Літвы, Украіны, Расіі. Чаму ж яны там? Чаму іх нам не вяртаюць? Які характар можа мець сёння вяртанне, прыкладам, кніжных ці мастацкіх збораў?

На даследаванне гэтай праблемы была скіраваная праца камісіі «Вяртанне», узначаленай Адамам Мальдзісам, якая пачала сваю дзейнасць на пачатку 90-х гг. У рамках яе працы быў выдадзены шэраг кніг, даследаваны этапы вывазу культурных каштоўнасцяў. Усяго выйшлі ў свет 8 каталогаў страчаных беларусіх каштоўнасцяў, падрыхтаваныя камісіяй, зараз да выдання рыхтуецца наступны.

Пра працу камісіі, пра перспектывы вяртання беларускіх твораў мастацтва на радзіму карэспандэнтка «Новага Часу» гутарыць з прафесарам, доктарам мастацтвазнаўства, загадчыкам аддзела старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Надзеяй Фёдараўнай Высоцкай.

**– Што ўяўляе сабой на сёння камісія па вяртанні беларускіх помнікаў мастацтва «Вяртанне»?**

– Ва ўсіх краінах свету, дзе з пашанай ставяцца да нацыянальнага мастацтва, такая камісія як «Вяртанне», заўсёды працуе на ўзроўні ўрада. У нас яна пакуль існуе фактычна на добраахвотных грамадскіх пачатках. Збіраецца беларуская інтэлігенцыя і разважае пра тое, што трэба вяртаць помнікі, займацца вывучэннем і прапагандай нацыянальнага мастацтва і г.д. На гэта выдаюцца нейкія мінімальныя гранты. Нейкім цудам выходзяць кнігі па зробленай працы.

Хоць у працы камісіі прымаюць удзел выдатныя даследчыкі і гісторыкі, мастацтвазнаўцы, этнографы, літаратуразнаўцы. Асабліва мне хацелася б вызначыць працу архівістаў.

Зараз рыхтуецца дзевяты зборнік. Папярэдні быў прысвечаны Радзівілам і ўтрымлівае вельмі шмат матэрыялаў, звязаных з іх калекцыяй.

**– Зборнікі «Вяртанне» - рэальны вынік працы. Але мноства помнікаў так і застаецца за межамі краіны, у сховішчах іншых музеяў. Ці ёсць нейкая рэальная магчымасць вяртання гэтых калекцый?**

– У музеях Польшчы унікальныя беларускія творы выстаўленыя ў экспазіцыі нацыянальных музеяў, з імі можна пазнаёміцца. У адрозненне ад экспазіцыі нашых музеяў, дзе беларускія помнікі прадстаўленыя ў мізэрнай колькасці. Яны ўсе ў сховішчах, і ў гэтым уся праблема.

На мой погляд, трэба, каб было больш сур'ёзнае стаўленне да музейнай праблематыкі. Неабходна ствараць нацыянальныя музеі. Прычым гэтыя музеі перадусім павінны займацца прапагандай нацыянальнай культуры, гісторыі. Павінны быць вялікія выставы беларускага мастацтва, а не так як у нашым гістарычным музеі: італьянскае мастацтва, нейкія незразумелыя выставы, а пастаяннай экспазіцыі няма. У Мастацкім музеі ёсць сталая экспазіцыя беларускага мастацтва, але яна невялікая. Пяць залаў не могуць паказаць 26 тысяч экспанатаў.

Увогуле, проста здзіўляе, што ў нас няма нідзе экспазіцыі вядучых беларускіх майстроў. Я ўжо не кажу пра старажытнае мастацтва. Краіны з такім стаўленнем да нацыянальнага мастацтва і культуры, як Беларусь, нагэўна, больш няма.

Таму перад тым, каб казаць пра вяртанне, трэба стварыць умовы для захавання таго, што ў нас ужо ёсць. І не толькі захаваць, але і паказваць, папулярызаваць беларускае мастацтва.

Сур'ёзная праблема ў сувязі з гэтым – самасвядомасць беларусаў. Трэба, каб яны ведалі сваю гісторыю, сваю генеалогію, помнікі свайго мастацтва, гісторыю свайго горада, цанілі ўсё гэта.

**– Вы хочаце сказаць, што для пачатку трэба было б разабрацца з тымі калекцыямі і помнікамі, якія мы ўжо маем...**

– Канешне, прапагандаваць трэба сваё нацыянальнае мастацтва, яго цаніць і захоўваць. Навучыцца гэта рабіць. І не шкадаваць на гэта грошай. Таму што калі мы прыдзем і скажам: «дайце нам», нас адразу запытаюць: «а дзе вы гэта пакажаце?». З аднаго сховішча перакласці ў другое – ніякага сэнсу няма.

**– Але ёсць і этычны момант. Усё ж такі гэтыя помнікі належаць Беларусі і беларускаму народу...**

– А чаму беларусы дазволілі іх забраць? Я заўсёды кажу пра тое, што павінна быць вельмі моцна развітае пачуццё нацыянальнага гонару. А ў нас яно занядбанае па гістарычных прычынах. Колькі музеяў нацыянальнага мастацтва, напрыклад, ва Украіне. Там зусім іншае стаўленне да гэтай праблемы. А ў нас атрымалася так, што нацыянальнай самастойнасці фактычна не было. Упершыню самастойнасць Беларусь атрымала толькі ў 1991 годзе. Акрамя таго, для тых хто прыехаў у Беларусь у савецкія часы, яна яшчэ не стала радзімай, яны не ведаюць гісторыю, не знаёмыя з нацыянальнай культурай. Гістарычна так склалася, што такіх людзей у нас вельмі шмат. Таму павінны быць створаныя перадумовы для захавання і экспанавання помнікаў. І другое – павінна праводзіцца дзяржаўная палітыка па вывучэнні таго, што знаходзіцца за межамі Беларусі. І не імкнуцца адразу прывезці іх, а прынамсі, вярнуць іх у беларускі навуковы зварот.

**– Якая праца вядзецца зараз у гэтым накірунку?**

– Таксама і тут усё трымаецца на добраахвотных грамадскіх пачатках. А гэта вельмі цяжкая і складаная праца. Трэба ведаць мовы, працаваць у польскіх, нямецкіх, рускіх архівах. За гэта ўсё трэба плаціць. Гэта профільны матэрыял майго аддзела, таму я займаюся гэтым. Але каб дасягнуць нейкага поспеху, трэба было б пакінуць усю астатнюю працу і займацца толькі гэтым. Вельмі складаны матэрыял, які патрабуе вялікіх высілкаў і высокай кваліфікацыі.

Таксама ў гэтым накірунку працуюць розныя дзяржаўныя камісіі. Напрыклад, ёсць польска-беларуская камісія, дзе польскія і нашыя навукоўцы спрабуюць максімальна спрыяць даследаванню нясвіжскай калекцыі. Польскія калегі паказваюць нам нашыя памылкі, фінансуюць стажыроўкі для нашых спецыялістаў, ладзяць сумесныя выставы. Яны прыкладаюць намаганні, бо яны інакш жывуць, і ў іх іншае стаўленне да гісторыі і культуры.

**– Якімі маглі б быць перспектывы працы камісіі «Вяртанне» ў бліжэйшыя гады, на ваш погляд?**

– Для таго, каб камісія сапраўды плённа і вынікова працавала, яна павінна быць альбо часткай Міністэрства замежных справаў, альбо Савета Міністраў, – гэта значыць мець дзяржаўныя паўнамоцтвы. Таму што, калі Грамадская арганізацыя «Вяртанне» піша у Савет Міністраў Украіны, гэта не выглядае сур'ёзна. Зараз гэтая праца трымаецца на спецыялістах, для якіх сэнс жыцця – вывучэнне беларускага мастацтва. Але заўтра ўсе гэтыя спецыялісты, ужо немаладыя людзі, сыдуць, і моладзь, якой трэба зарабляць грошы, гэтай праблемай займацца не будзе. Каб рашэнне праблемаў рухалася наперад, яны павінны набыць дзяржаўны ўзровень.

**– Ці ёсць у нас ці ў суседніх краінах нейкі станоўчы вопыт працы па вяртанні?**

– Канешне, варта прыгадаць, калі прэзідэнт Леанід Кучма прывёз у Беларусь унікальную ікону 17 ст. з даваеннага фонду нашага Мастацкага музея. З Расіі да нас вярталіся друкаваныя выданні.

НЯСВІЖСКІЯ ЗБОРЫ



РАДЗІВІЛАЎ

вяртанне

Таксама вынікам працы камісіі можа быць і вяртанне помнікаў па абмене. Мы аддаем тое, што важна для рускага, украінскага ці польскага боку, а яны вяртаюць нам тое, што важна для нас. Такі варыянт таксама цалкам магчымы. Але гэтым трэба сур'ёзна займацца на дзяржаўным узроўні. Бо калі, напрыклад, французскі прэзідэнт дарыць каралеўскаму палацу ў Варшаве унікальны стол 18 ст., гэта значыць, што гэтаму папярэднічала вельмі вялікая праца музейшчыкаў.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**





# Педагогіка – гэта дыялог

***Неабходны адмысловы інфармацыйны сайт для педагогаў***

Так павялося яшчэ з часоў Сакрата. Бо ён праз творы Платона прамаўляе да нас з глыбіняў часу: ісціна не паўстае і не знаходзіцца ў галаве асобнага чалавека, а нараджаецца ў працэсе гутаркі паміж людзьмі, якія шукаюць ісціну. Прамінулыя стагоддзі пашырылі і паглыбілі сённяшнія ўяўленні пра дыялагічны аспект людскога існавання.

Педагогі гавораць цяпер пра дыялог задач, філосафы - пра дыялог культур. На гэтую тэму ёсць знакавы твор, які варта было б уключыць у навучальныя праграмы педуніверсітэтаў. Маю на ўвазе раман-метафару Г.Гесэ «Игра в бисер» – у рускім перакладзе альбо «Гульня шкляных перлаў» - у цудоўным перакладзе на беларускую В.Сёмухі.

...Вялікі Магістр пачынае з адной фугі Баха, імправізуе і надзвычай натуральна ўводзіць у Гульню фрагмент з матэматычнага трактата Ляйбніца. Ён пэўны час развівае закладзеныя там ідэі, затым незаўважна пераходзіць да формулы з астраноміі, імправізуе на тэмы Космасу, звяртаецца да паэмы старажытнакітайскага аўтара, зноўку вяртаецца да Ляйбніца, дадае новыя сюжэты, улучае зададзеную тэму ва ўсё новыя культурныя кантэксты. Прычым робіцца ўсё гэта надзіва гарманічна. Зачараваныя гледачы з захапленнем сочаць за разгортваннем у часе і прасторы вялікай Гульні «з усімі сэнсамі ды каштоўнасцямі культуры». Падтрымка гэтай гульні, яе тэарэтычнае ўдасканальванне і практычная рэалізацыя – асноўны занятак жыхароў Касталіі, пра што і распавядае ў надзвычай дзівосным і разам з тым па-філасофску глыбокім творы Г.Гесэ.

Настаўнікі - жыхары сваёй «педагагічнай правінцыі». Нашыя імправізацыі і варыяцыі на пэўныя тэмы мы здзяйсняем разам з вучнямі. Але мы не можам не выйсці за межы сваіх урокаў і школьнае руціны і не прадоўжыць дыялог на «зададзеную тэму» ўжо міжсобку. На канферэнцыях і семінарах, у часопісах і ў Інтэрнэце, у міжасабовых кантактах. Пытанне ў тым - наколькі гэта нам патрэбна? Наколькі дыялагічная наша педагагічная прастора?

Іманентны стан дыялагізму ў педагагічным асяроддзі можа быць не здзейсненым навонкі і заставацца патэнцыйным і нябачным да тае пары, пакуль не будуць створаны для яго адпаведныя формы рэалізацыі. Паглядзім жа на гэтыя формы. Дзе, калі і як настаўнікі могуць свабодна, нязмушана і напоўніцу ўвайсці ў міжасабовы, прафесійны і эмацыйны, кантакт па-за межамі сваіх педкалектываў? Мы маем, канешне, розныя педагагічныя нарады, семінары, курсы. Маем «Настаўніцкую газету» і прадметныя часопісы. Але ці кожны, хто жадае, там можа выступіць альбо задаволіць прапанаваннай формай? Вельмі добра, што наша газета пашырае сваю дзейнасць менавіта ў акрэсленым кірунку, ствараючы адгалінаванне «Адкрыты ўрок». Гадзі са тры таму была створана Асацыяцыя настаўнікаў матэматыкі. Але, правеўшы два семінары, на жаль, згарнула сваю актыўнасць. Якая тут прычына: ці то сродкаў бракуе, ці яшчэ што - шэраговыя сябры асацыяцыі не ведаюць.

Усе разгледжаныя формы педагагічных узаемінаў не маюць, на жаль, дастатковых умоваў для праяваў сапраўды сакратаўскага дыялогу, бо прынцыпам іх арганізацыі ёсць пераважна маналагізм. Між тым, неяк неўпрыкмет, эпоха маналога скончылася, дзякуючы ўварванню ў нашае жыццё інтэрнэту. Упершыню кожны аўтар становіцца адкрытым для поўнамаштабнага, адмысловага дыялогу з кожным чытачом, апанентам, іншым аўтарам, калі ён змяшчае свой тэкст у інтэрнэт-прасторы разам са сваімі электроннымі каардынатамі. Тэкст становіцца адкрытым для дыялогу. Ён сам ператвараецца ў дыялог, бо ягоныя аргументы, тэзы тут жа, аператыўна, спараджаюць контраргументы і антытэзы. Тэкст стаецца адкрытым для развіцця, ён мае памкненне да эвалюцыі ў «адкрыты твор» (паводле Умбэрта Эка).

Дык вось, я сцвярджаю: абмен тэкстамі, ідэямі, думкамі, педагагічнымі напрацоўкамі і тэхналогіямі праз Інтэрнэт мог бы стаць сёння ці ў вельмі хуткім часе (які ж ён хуткаплынны!) для настаўнікаў найбольш эфектыўнай формай прафесійных кантактаў.

Што для гэтага патрэбна? Тры рэчы: прынамсі, адзін камп'ютар для педагагічных мэтаў на кожны раён краіны, падключаны да інтэрнэту (з выдзеленымі на карыстанне сродкамі), адмысловы інтэрнэт-сайт, напэўна, пад эгідай Міністэрства адукацыі і жаданне настаўнікаў весці дыялог міжсобку. Першае і трэцяе ў нас ёсць, апроч таго, камп'ютары з выхадам у інтэрнэт з'яўляюцца ў асобных настаўнікаў, ужо не гаворачы пра вучняў. Няма адпаведнага сайту, які мае быць стала дзейным педагагічным форумам, куды настаўнікі будуць заходзіць і пакідаць свае матэрыялы: артыкулы, метадычныя распрацоўкі, тэсты, агляды літаратуры і г.д. Уяўляеце, які банк педагагічнай інфармацыі, адкрыты для ўсеагульнага карыстання і папаўнення, можна стварыць!

Пакуль жа незразумела нават, куды настаўнік можа звярнуцца са сваімі распрацоўкамі, калі іхны маштаб выходзіць за межы школы, дзе ён працуе. У прадметны часопіс? Але ж ён дужа рэдка прыходзіць, ды невядома яшчэ ці надрукуюць. Заўважым, што нашы прадметныя часопісы чамусьці не маюць *e-mail*. Гэта дужа нязручна для аўтараў аб'ёмістых тэкстаў з формуламі ды рысункамі – трэба прыводзіць усё ў чытэльны выгляд, «ісці на пошту», рабіць бандэроль... Рэдакцыям часопісаў затым усё трэба наноў набіраць. А калі надрукуецца артыкул, то няма ніякай магчымасці зкантактавацца з аўтарам, бо ў абавязкі рэдакцый наладжванне падобных сувязей пэўна не ўваходзіць. Хаця, зноў заўважым, дастаткова, каб часопіс ці аўтар меў свой *e-mail*.

Для стварэння і функцыянавання сайту патрэбны дастаткова магутны сервер. Міністэрства адукацыі можа адолець гэтую справу ўжо сёння. І тады педагагічная грамада краіны атрымае эфектыўную форму і імпульс для нарошчвання сваёй інтэлектуальнай, прафесійнай моцы.

Тым часам цікавыя рэчы адбываюцца ў галіне педагагічных узаемінаў і пашырэнні новых тэхналогій у нашых расійскіх суседзяў. Падам адзін, найбольш мне вядомы, прыклад. Тры гады таму я зацікавіўся камп'ютарнай праграмай па дынамічнай геаметрыі. Паводле маскоўскага матэматыка М. Далбіліна, праграма можа радыкальна змяніць выкладанне матэматыкі ў школе. У ёй настаўнік разам з вучнямі можа ствараць эўрыстычныя адукацыйныя праекты-сцэнары для сваіх курсаў і прадметаў. Калі пачаў гэтым займацца, то зразумеў - тут адкрываюцца вельмі вялікія перспектывы. Пачаў шукаць у інтэрнэце калегаў, якія займаліся тым жа. У Беларусі не знайшоў, але, мяркую, не таму, што няма зацікаўленых людзей, – яны безумоўна ёсць, а менавіта таму, што няма адпаведнай формы для кантактаў.

Калі ж зайшоў на адзін расійскі сайт і пакінуў сваё паведамленне, то хутка атрымаў адказ ад У.Н.Дуброўскага (МГУ). Завязалася перапіска, абмен ідэямі і ў выніку – прапановы даць артыкул для расійскага часопіса «Компьютерные инструменты в образовании» і ўзяць удзел у інтэрнэт-праекце стварэння камп'ютарнага дапаможніка па курсу матэматыкі. Цягам чатырох месяцаў ішоў зазвычай штодзённы абмен інфармацыяй (перасылка файлаў электроннай поштай), шматбаковы дыялог аўтараў з розных рэгіёнаў. На сённяшні дзень праца скончана, атрымана вялікае духоўнае (і не толькі) задавальненне, прадукт гатовы, але ж тое для расійскіх школ...

Мяркую, час прыспешваць стварэнне беларускага педагагічнага інтэрнэт-форуму і супольнай інтэрактыўнай скарбонкі. Аўтар гэтых радкоў адкрыты для дыялогу і мае канкрэтныя ідэі для рэалізацыі гэтага праекту.

**Іван ХРАПАВІЦКІ,**
**настаўнік СШ №3 г. Глыбокае**
**janka_x@tut.by**

# Упершыню ў славянскім свеце




Кожнага сапраўднага аматара роднага слова радуе з'яўленне любой новай кнігі па гэтай праблематыцы. У дадзеным жа выпадку гаворка пойдзе пра унікальнае выданне, зробленае ўпершыню ў славянскім свеце. Мы маем на ўвазе лінгвістычны кампендыум «Беларуская мова», падрыхтаваны аўтарамі Б.А.Плотнікавым, Л.А.Антанюк.

Кампендыум (лац. compendium – скарачэнне) - новы манаграфічны жанр у беларускай лінгвістыцы, які дазваляе прадставіць аб'ёмны фактычны матэрыял у сціслай форме. Аўтары здолелі вырашыць складаную праблему: даць на высокім сучасным навуковым узроўні тэарэтычную характарыстыку беларускай мовы ва ўсіх аспектах (беларуская мова сярод іншых славянскіх моў, гісторыя беларускай мовы і навука аб ёй, стылістыка і культура маўлення, лексіка і фразеалогія, фанетыка і фаналогія, марфалогія і сінтаксіс, словаўтварэнне, лексікаграфія і фразеаграфія, дыялекталогія). Апісанне і аналіз моўных фактаў праводзіцца ў кнізе з улікам важнейшых дасягненняў беларускага, славянскага і сусветнага мовазнаўства.

Значная ўвага аўтараў даследавання адводзіцца асаблівасцям утварэння і развіцця, тэрытарыяльнаму і сацыяльнаму чляненню беларускай літаратурнай мовы. Тут закранаецца і соцыялінгвістычны аспект існавання такой моўнай з'явы на тэрыторыі Беларусі, як трасянка, што з'яўляецца вынікам інтэрферэнцыі вусных варыянтаў беларускай і рускай мовы. Вельмі падрабязна прааналізавана агульнае і спецыфічнае ў лексіцы беларускай мовы ў параўнанні з іншымі славянскімі мовамі.

Бясспрэчную вартасць раздзелу гісторыі мовы надае тое, што аналіз мовы на розных этапах яе функцыянавання адбываецца з улікам жанравай прыналежнасці тых ці іншых помнікаў беларускай літаратуры, у выніку чаго аўтары падручніка вылучаюць наступныя падраздзелы: асаблівасці мовы рэлігійнай літаратуры, мова дзелавой старабеларускай літаратуры, моўныя асаблівасці мастацкай, мемуарнай, навуковай літаратуры. Такі падыход дазволіць карыстальнікам сфарміраваць комплекснае ўяўленне аб дынаміцы развіцця беларускай літаратурнай мовы і выпрацоўцы яе сістэмы функцыянальных стыляў.

Чытачы несумненна з зацікаўленасцю прачытаюць пра станаўленне мовазнаўчай навукі, а таксама пра дзейнасць выдатных асветнікаў і мовазнаўцаў розных часоў: Ф.Скарыны, С.Буднага, С.Полацкага, Я.Карскага, Б.Тарашкевіча і інш.

Значнасць і асаблівую вагу падручніку надае заключэнне, да напісання якога аўтары падышлі нетрадыцыйна і нефармальна. У гэтай частцы кнігі аўтары выказалі сваё стаўленне да прадмета даследавання. У кожным радку адчуваецца пачуццё горычы і болю за ўвесь лёс і сённяшні стан роднай мовы, але адначасова – неабыякавасць і непрыхаваная гордасць за тое, што мова, нягледзячы ні на якія цяжкасці, усё ж жывая. Мала таго – аўтары прытрымліваюцца аптымістычнага погляду адносна перспектывы развіцця нашай мовы і маюць на гэты конт адпаведную аргументацыю.

Кніга напісана навуковай мовай, аднак дастаткова даступнай і зразумелай кожнаму зацікаўленаму чытачу, у тым ліку непрафесійнаму лінгвісту.

**І.Л.КАПЫЛОЎ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**С.Я.РАПАЦЭВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# Новае пакаленне выбірае...

*У мінулым нумары ў матэрыяле пад азначанай назвай па тэхнічных прычынах была прапушчана частка тэксту, што пэўным чынам сказіла змест адказаў студэнтаў на пытанні. Прыносім прабачэнні і друкуем тэкст без пропускаў.*

**Чаму Вы вырашылі абраць гэтую навучальную ўстанову?**

**Што стала рашаючым пры выбары прафесіі юрыста?**

**Цвяцінская Ганна.** Я сама з Навапалацка. Добрыя водгукі пра Акадэмію кіравання пачула ад мінулагодніх выпускніц нашага ліцэя. На мой выбар паўплывала таксама прэстыжнасць гэтай навучальнай установы.

**Слівіна Каця.** Я чула шмат добрых водгукаў ад студэнтаў, якія расказалі пра тое, што тут выкарыстоўваюцца найноўшыя метады вывучэння юрыспрудэнцыі. Тут рыхтуюцца добрыя кадры, няма праблемы з працаўладкаваннем пасля заканчэння.

Менавіта юрысты і эканамісты могуць і павінны ўзняць узровень краіны.

**Сяргееў Дзіма.** Пытанне выбару прафесіі вырашыў для сябе год назад. Істотным у гэтым пытанні з'явілася тое, што выпускнікам Акадэміі прадастаўляюцца самыя выгадныя месцы працы. У нас мала па-сапраўднаму кваліфікаваных юрыстаў, якія б дапамагалі ў цяжкіх жыццёвых пытаннях. Мала прававой падтрымкі. Шмат юрыстаў, якія скончылі камерцыйныя ВНУ, што само па сабе выклікае сумненні ў іх высокай прафесійнай падрыхтоўцы.

**Трафімчук Аліна.** Я лічу, што выкладчыкі павінны быць высокаадукаванымі людзьмі. Сябры пераканалі, што ў Акадэміі кіравання працуюць менавіта такія. Думаю, што ў нашай краіне мала кваліфікаваных юрыстаў.

**Пляеса Наталля.** Для мяне пры выбары месца вучобы былі важнымі два моманты. Па-першае, гэта адна з прэстыжных ВНУ. Па-другое, яна мае ў назве дадатак «Пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь». А я паважаю нашага Прэзідэнта.

**Сасніна Юля.** Я скончыла юрыдычны каледж. Паспела папрацаваць на практыцы ў міліцыі - 3 месяцы. Гэта дазволіла мне зразумець, што я люблю гэтую прафесію. А я лічу, што абавязкова трэба любіць абраную прафесію, каб дабіцца поспеху.

**Стэфановіч Таня.** Я люблю гуманітарныя навукі. І перада мной стаяў выбар – БДУ ці Акадэмія кіравання. Водгукі сяброў дапамаглі вызначыцца канчаткова.

**Лях Марына.** Мая цётка працуе суддзёй. Яе поспехі натхнілі мяне. Хочацца быць падобнай на яе. А яшчэ вельмі важна для мяне прэстыжнасць прафесіі і ВНУ.

**Рамановіч Таня.** Мой бацька праходзіў перападрыхтоўку ў Акадэміі кіравання. Я прыслухалася да яго парад.

# «Чорныя» маклеры

**_Як пакідаюць без кватэры даверлівых людзей – тэхналогія злачынства_**

Набыццё кватэры ва ўласнасць – складаная справа. Вакол нерухомасці, нават па беларускіх мерках, круцяцца вялікія грошы, і таму без крыміналу тут не абыходзіцца.



### Канвеер па «штампоўцы» бамжоў

Віктар, двойчы судзімы за крадзеж і хуліганства, жыў у сталічным мікраёне Малінаўка. А паколькі быў чалавек вельмі камунікабельны, то добра ведаў аб жыцці суседзяў. Ды і не прынята ў нас рабіць таямніцы з таго, што нехта гадамі не плаціць за кватэру. Звычайна гэта людзі, якія нідзе не працуюць і злоўжываюць алкаголем. Як правіла, гэта яшчэ і адзінокія людзі. Але наш «герой» меў справу і з сямейнымі людзьмі.

У чарговы раз апынуўшыся на свабодзе, ён задумаўся: чым заняцца, каб добра зарабляць. Невядома, сам прыдумаў ці «падказалі» дасведчаныя сябры, але ён выбраў сабе занятак маклера па продажу нерухомасці. І не проста маклера, а, як іх прынята называць, «чорнага» маклера. «Працаваць» ён пачаў у 1997 годзе. Схема злачыннай працы была адзіна магчымая: уваходзіў у давер да будучых ахвяр, даваў ім грошы. Потым, за чаркай, тлумачыў, што багацце вакол іх, а яны не заўважаюць. Усё проста: трэба толькі прадаць іх кватэру, а набыць другую – меншую ці ў іншым раёне, а некаторым раіў набыць дамок у вёсцы. І галоўнае, пасля гэтай здзелкі застануцца грошы! А ўсе турботы па куплі-продажу ён возьме на сябе. І будучая ахвяра падпісвала генеральную даверанасць на Віктара. Па аператыўных звестках, за 4 гады сваёй «дзейнасці» ён «адсяліў» 20–25 сям'яў. У суд пайшоў з 8 эпізодамі. Бо паміж «ведаць» і «даказаць» бываюць непераадольныя перашкоды. Цяпер Віктару восем гадоў не трэба будзе думаць аб месцы жыхарства - яно яму забяспечана ў калоніі. А яго ахвяры пайшлі па свеце... Каму пашанцавала – жывуць у сваякоў, хто стаў бамжом...

### Людзі гінуць за квадратныя метры

Каб спыніць дзейнасць «чорных» маклераў, у 1999 годзе Мінгарвыканкам прыняў адмысловую пастанову, згодна з якой жыллё грамадзян, якіх па розных прычынах можна аднесці да групы рызыкі, немагчыма прадаць без дазволу адміністрацыі раёна. Групу рызыкі складаюць адзінокія пажылыя людзі, грамадзяне з псіхічнымі захворваннямі, пры якіх яны не могуць разумець і адказваць за свае рашэнні, грамадзяне, якія злоўжываюць алкаголем. Калі на жылой плошчы прапісаны непаўналетнія дзеці, то, незалежна ад сацыяльнага статусу сям'і, без дазволу камісіі раённай адміністрацыі прадаць ці абмяняць жыллё немагчыма. А дазвол даецца толькі ў тым выпадку, калі вядома, куды яны перасяляцца і што ні па метражы, ні па якасці жыллё не будзе горшым за папярэдняе. Практыка паказвае, што немагчыма паставіць на ўлік кожнага п'яніцу. Асабліва, калі ён ціхі, не турбуе суседзяў. Па вялікім рахунку ўчастковы інспектар не мае падставаў уключаць такога грамадзяніна ў «сацыяльны спіс». На вуліцы Чкалава ў Мінску ў двухпакаёвай кватэры якраз і жыў такі ціхі п'яніца, нехта Д. З ім пазнаёміўся грамадзянін Ф. Зноў-такі за чаркай гарэлкі, Ф. прапанаваў Д. абмяняць сваю двухпакаёвую кватэру на дом у Стоўбцах і яшчэ атрымаць на рукі 1.000 даляраў. Даверанасць была выпісана на грамадзянскую жонку Ф. – нейкую С. Кватэра была прададзена, але як гэта бывае, нейкі час Д. у ёй яшчэ жыў. Аб яго «здзелцы» даведалася сястра. Яна прыехала з абласнога цэнтра, каб на месцы высветліць што і як. У кватэры сустрэліся ўсе зацікаўленыя бакі: Д. і яго сястра, грамадзянін Ф. Жанчына патрабавала, каб здзелку анулiравалі ці заплацілі столькі, колькі на самой справе каштуе кватэра. Перамовы зайшлі ў тупік, і тады Ф. выкарыстаў апошні аргумент: ён задушыў жанчыну. Брат яе не змог абараніць, бо, атрымаўшы грошы, напіваўся да каматознага стану. Праз некалькі тыдняў супрацоўнікі крымінальнага вышуку Цэнтральнага РУУС Мінска затрымалі Ф. і С. Высветлілася, што С. сваю фактычную жонку Ф. выдаў замуж з усімі фармальнасцямі за вялікага прыхільніка спіртовых напояў, а па сумяшчальніцтве і ўладальніка двухпакаёвай кватэры. Вось такая драма...

### Не дайце сябе падмануць

Агенцтвы нерухомасці гандлююць не столькі паслугамі, колькі інфармацыяй. Іх галоўны аргумент – яны не толькі ведаюць, дзе выстаўлена на продаж падыходзячая кліенту кватэра, але яшчэ і раскажуць байку аб тым, што «правераць» «чысціню кватэры». Аднак ніякіх законных падставаў на такую праверку ў іх няма. Больш за тое, у выпадку, калі здзелка аспрэчваецца ў судовым парадку, ніякай адказнасці агенцтвы нерухомасці не нясуць. За ўсё адказваюць толькі пакупнік і прадавец. Ніхто не супраць агенцтваў нерухомасці, калі іх паслугі запатрабаваны. Пры тым, што большасць здзелак з нерухомасцю, падобныя на ланцужок, дык толькі спецыяліст можа ўтрымаць усе яе звёны. Аднак усе «здзелкі» Віктара былі праведзены адным сталічным агенцтвам нерухомасці. Настолькі дасведчана, што па справе супрацоўнікі фірмы праходзілі як сведкі.

Дык на што ж трэба звяртаць увагу патэнцыйнаму пакупніку? Па-першае, павінна насцярожыць наяўнасць генеральнай даверанасці. Калі ўжо кватэра так спадабалася, што без яе ніяк, то трэба сустрэцца з тым, хто гэту даверанасць выдаў, і ўпэўніцца ў яго жаданні прадаць нерухомасць.

Па-другое, трэба разам з уладальнікам кватэры ісці ў ЖЭС і праверыць асабовы рахунак. Упэўніцца, што вы ведаеце пра ўсіх грамадзян, якія маюць права на прапануемую жылплошчу. Гэта могуць быць дзеці, якія знаходзяцца ў інтэрнаце, калі іх бацькі пазбаўлены бацькоўскіх правоў. З жылой плошчы выпісваюць тых, хто знаходзіцца ў працяглай камандзіроўцы, на службе ў войску і ў месцах пазбаўлення волі. Судовых справаў, калі гэтая катэгорыя грамадзян ці назіральны пракурор узбуджалі іскі, дастаткова. І суд звычайна на баку пацярпелых, а не пакупнікоў.

Варта звярнуць увагу і на тое, колькі ўладальнікаў мела кватэра. Звычайна, калі яны мяняліся праз кожныя паўгода, то вельмі верагодна, што за гэтым хаваецца якая-небудзь крымінальная гісторыя.

Трэба ўважліва паставіцца да асобы гаспадара. П'яніцу можна памыць, апрануць, нават навучыць, калі што гаварыць, але ўважлівы чалавек імгненна зразумее, што гэта спектакль. А паколькі ціхія п'яніцы на сённяшні дзень і ёсць асноўная група рызыкі, то варта быць пільнымі і не паддацца на падман «чорных» маклераў.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

## Змены пашпартаў не будзе

Як паведаміла начальнік УПВС Міністэрства ўнутраных спраў Лідзія Іванчыкава на прэс-канферэнцыі для журналістаў, штогод пашпартна-візавую службу наведваюць каля 3 мільёнаў чалавек. На сённяшні дзень новыя пашпарты грамадзяніна Рэспублікі Беларусь атрымалі больш за 90 працэнтаў жыхароў краіны. За 9 месяцаў гэтага года супрацоўнікі ПВС разгледзелі амаль 350 тысяч заяў аб выездзе за мяжу. Агульнавядома, што некаторым нашым суграмадзянам даводзіцца перасякаць дзяржаўную граніцу часта. Таму 17 ліпеня гэтага года Саветам Міністраў была прынята спецыяльная пастанова, паводле якой колькасць старонак для віз і іншых адзнак аб перасячэнні мяжы павялічана з 18 да 23.

Уводзіць спецыяльны пашпарт для замежных паездак Беларусь пакуль не будзе. Таксама не плануецца ўносіць змены і ў дзеючы дакумент. Хоць краіны вялікай «васьмёркі» дамовіліся аб тым, што перасячэнне іншаземцамі граніц гэтых дзяржаў з кастрычніка наступнага года будзе магчыма толькі пры наяўнасці дакументаў з біяметрычнымі паказчыкамі: адбіткамі пальцаў, указаннем колеру радужнай абалонкі вока ды іншых індывідуальных адметнасцяў кожнага чалавека. Беларускі пашпарт у бліжэйшы час застанецца без зменаў. Але паколькі Рада Міністраў Еўрасаюза мяркуе ўвесці новыя формы адзінай візы і пасведчання на права жыхарства, дык для такіх дакументаў будзе неабходная лічбавая фотакартка ўладальніка і адбіткі двух пальцаў.

Лідзія Іванчыкава таксама паведала, што за 9 месяцаў гэтага года падраздзяленнямі пашпартна-візавай службы было разгледжана больш чым 18,5 тысяч матэрыялаў па пытаннях грамадзянства. Найбольшая колькасць перасяленцаў зафіксавана ў Гомельскай вобласці - болей за 23 тысячы, Брэсцкай - 19,5 тысяч, Мінскай - амаль18 тысяч, у Мінску - болей за 16 тысяч, на Віцебшчыне - 15,3 тысячы, на Магілёўшчыне - 12, 3 тысячы, на Гродзеншчыне - 9,5 тысяч чалавек.

## Самы небяспечны горад на Захадзе

Брытанская Control Risks Group – кампанія, якая аналізуе розныя рызыкі ў краінах свету, прыйшла да высновы, што Лондан – самы небяспечны сярод мегаполісаў Заходняй Еўропы з гледзішча магчымых тэрарыстычных актаў. На думку экспертаў кампаніі, роля Вялікабрытаніі ў Іракскай вайне, а таксама наяўнасць у Лондане вялікай колькасці мусульманаў азначае вельмі сур'ёзную пагрозу з боку тэрарыстаў-смяротнікаў.

Control Risks Group паведамляе аб становішчы з бяспекай у 195 краінах. Рызыка тэрактаў у 2004 годзе ацэньваецца па 4-бальнай шкале: «экстрэмальная», «высокая», «сярэдняя», «нізкая». Лондан быў перасунуты з катэгорыі «нізкая» ў катэгорыю «сярэдняя». Пры гэтым у астатняй Вялікабрытаніі небяспека тэракта застаецца мінімальная.



Самымі небяспечнымі краінамі ў свеце прызнаны Бурундзі, Ліберыя і Самалі. Крыху менш небяспечна, напрыклад, у Іраку, Афганістане, Пакістане, Калумбіі. У «сярэдняй» катэгорыі апрача Лондана знаходзяцца Саудаўская Аравія, Кувейт, Бахрэйн, Тайланд, Балівія, Марока. «Нізкі» ўзровень тэрарыстычнай пагрозы – у большасці краінаў Заходняй Еўропы, ЗША, Канадзе.

## Узнагарода ад Microsoft

Кампанія Microsoft, раз'юшаная крытыкай у свой адрас за неабароненасць яе праграмнага забеспячэння, прапанавала ўзнагароду ў памеры 500 тысяч даляраў за інфармацыю, якая дапаможа арыштаваць стваральнікаў камп'ютэрных вірусаў MSBlast і Sobig. Пра гэта было аб'яўлена на сумеснай канферэнцыі Microsoft, ФБР, Сакрэтнай службы і Інтэрпола. Усяго на ўзнагароды за захоп хакераў кампанія плануе выдаткаваць 4,5 мільёны даляраў. Такая шчодрасць Microsoft тлумачыцца, відаць, тым, што ад вірусаў пацярпелі камп'ютэры, якія працуюць пад упраўленнем аперацыйнай сістэмы Windows.

Кібератакі ўжо парушалі працу паліцэйскіх дыспетчараў, банкаматаў і нават адключалі ад інтэрнэта ўсю Паўднёвую Карэю. Надзвычайная распаўсюджанасць праграмнага забеспячэння Microsoft робіць яе галоўнай адказнай асобай за пастаянныя вірусныя эпідэміі.

# Купляйце беларускае!

## Калі пашануе яго знайсці

Нягледзячы на цяжкасці, якія перажывае айчынная лёгкая прамысловасць, у нашай краіне вырабляюць якасныя і прыгожыя рэчы



### Прыгоды ў пошуку капялюшыка

Калі ў кастрычніку выпаў снег, і я пачала ліхаманкава шукаць капялюшык, то сустрэлася з вельмі цікавай з'явай. Скажу шчыра, што на капялюшык фірмы «Валента» я, як кажуць, паклала вока яшчэ летась. Але нейкая спрытная жанчынка выхапіла амаль з маіх рук апошні. Потым і ў спецыялізаванай краме, і ў аддзелах універмагаў я безвынікова шукала такі капялюшык. А пару тыдняў таму на «Дынама» заўважыла ўпадабаную мадэль. Капялюшык прадаваўся з этыкеткай, толькі былі зрэзаны рэквізіты «Валенты». Я прымерыла – як спецыяльна на мяне.

– Колькі каштуе? – пытаюся ў гандляркі.

– 25 даляраў, – адказвае тая, не міргнуўшы вокам.

Зразумела, што капялюш не павінен быць танным, але год назад у краме ён каштаваў 21 тысячу рублёў, гэта значыць удвая танней, чым сёння на «Дынама». Наступнага дня тэлефаную ў «Валенту». Там вельмі здзівіліся «дынамаўскім» коштам і параілі пайсці ў спецыялізаваную краму на вул. Раманаўская Слабада, зрабіць заказ. Што я і зрабіла, аддаўшы 30 тысяч.

### Цяжкасці лёгкай прамысловасці

У айчыннай лёгкай прамысловасці ёсць вялікі творчы патэнцыял мадэльераў, мастакоў і высокакваліфікаваных работнікі. Пры гэтым катастрафічна не хапае новага абсталявання і, зразумела, валюты на набыццё сыравіны. Па падліках спецыялістаў, у мінулым годзе лёгкай прамысловасці не хапала больш за 100 мільярдаў рублёў абаротных сродкаў. У такіх умовах працягвае дзейнічаць традыцыйная схема: мадэльер распрацаваў сучасную мадэль гарнітура з улікам апошніх патрабаванняў моды: ад колеру да фурнітуры. Але шлях ад майстэрні мадэльера да швейнага цэха зможа прайсці далёка не кожная мадэль. Чаму? А таму, што не хапае тканін і фурнітуры. І не трэба казаць: што там - нейкі гузік. Справа не ў дрэнным гусце майстроў. Мяркую, яны гэта робяць для таго, каб гарнітур быў больш-менш па кішэні пакупніцам. За 60 тысяч яшчэ можна набыць гарнітур, а 70 - ужо дорага. Дык вось добрыя гузікі прыкладна столькі і каштуюць. Упэўнена, што цяпер можна прыгожа апрануцца ў айчынnae адзенне. За савецкім часам шылі тысячу аднолькавых кашуль, цяпер - 100, а то і 50. Як бы цяжка ні было, але прадпрыемствы «варушацца». Пакупнік пайшоў разборлівы: бярэ тое, што падабаецца, а не тое, што даюць.

### Праблемы збыту

Ёсць аб'ектыўныя праблемы збыту прадукцыі, а ёсць суб'ектыўныя. Пачнем з першых. Попыт на айчынную прадукцыю лёгкай прамысловасці падае. У першую чаргу з прычыны высокіх коштаў у параўнанні з расійскім імпартам і шырспажывам з розных іншых рынкаў. Але крыўдна, калі жанчына, у якой ёсць грошы, нясе іх у краму нямецкай бялізны «Трыумф». Яна не ведае, што да многіх вырабаў з замежным ярлыком «Трыумф» прыклалі рукі майстры з «Мілавіцы». Няўжо «Берхауз» замовіў бы «Элеме» шыць паліто для сваёй гандлёвай маркі, калі б у нас не ўмелі шыць «з нямецкай якасцю». Справа ў іншым. Мы звыкліся, што чужое было лепшым за нашае, і працягваем так думаць. А рыначныя гандляры даўно зразумелі, як з гэтага можна мець гішэфт. Вось прыклады. Неяк давялося быць у камандзіроўцы ў Бабруйску. У фірменнай краме «Славянка» пасля пэўных разваг набыла цудоўную сукенку ў кветачкі коштам 19 тысяч. А праз колькі дзён на кірмашы ўбачыла такую ж, адрозную ад маёй адной дэталлю: замест лейбы «Славянкі» гэную аздабляла нешта «італьянскае». А гандлярка за сукенку прасіла 70 тысяч. Мінулай восенню мая сяброўка шукала ўпадабаную мадэль кобрынскай курткі. Нават тэлефанавала на фабрыку. І вельмі здзівілася, калі ўбачыла гэтакую куртку ў гандлёвым цэнтры ў Ждановічах, зноў-такі, зразумела, пад маркай замежнай. Зразумела, што і кошт быў паважна ўзняты.

Я затэлефанавала знаёмаму афіцэру аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю і спыталася: ці праўда, што ў Крымінальным кодэксе адмянілі артыкул за спекуляцыю? Ён растлумачыў, што артыкул не адмянілі, але ён амаль што не выкарыстоўваецца. Справа ў тым, што ў адпаведнасці з гэтым артыкулам да адказнасці можна прыцягнуць толькі таго, хто займаецца скупкай тавараў, якія прызначаны для продажу праз рознічны гандаль. І вельмі істотны момант: калі гэта скупка адбываецца на прадпрыемствах дзяржаўнай формы ўласнасці. Нягледзячы нават на «залатую акцыю», розныя акцыянерныя аб'яднанні не лічацца дзяржаўнымі прадпрыемствамі. «Я вельмі рады, што нашы, беларуская тавары могуць так дорага каштаваць. Прадпрыемству добра, што ў яго набываюць тавар, а не ляжыць ён на складзе», - сказаў афіцэр.

Магчыма, ён мае рацыю, але я не разумею такога прадпрымальніцтва: адны нешта ствараюць і пры вызначэнні кошта карыстаюцца разумнымі крытэрыямі, а іншыя на іх нажываюцца, вызначаючы «сваю» нідзе не адлюстраваную гандлевую набаўку ў памеры 100, 200 і болей працэнтаў. Вытворцу ад такіх «рэалізатараў» ніякай выгады. А пакупнікам тым болей. Апошніх проста абзіраюць.

### Беларускае ў замежжы

Заўважым, што далёка не заўсёды ў замежных крамах беларускія тавары «схаваны» за чужымі гандлёвымі маркамі. Ва ўпраўленні знешнеэканамічных сувязяў канцэрна «Беллегпрам» расказалі, што Аршанскі льнокамбінат з'яўляецца экспарцёрам нумар адзін у нашай краіне. Навагрудская швейная фабрыка па аб'ёмах прадукцыі, якую яна адпраўляе ў ЗША, абышла ўсіх сваіх расійскіх канкурэнтаў. Сярод вядучых экспарцёраў - «Мілавіца», «Калінка», «Надэкс», «Элема», жодзінскі «Світанак», «Славянка», «Лона», «Белфа». За 8 месяцаў бягучага года за межы Беларусі адпраўлена тавараў лёгкай прамысловасці на суму 280,2 мільёна даляраў. У краіны далёкага замежжа экспарт склаў 40,7% ад агульнага аб'ёму, у СНД - 59,3%, з іх - 55,5% прыходзіцца на долю Расіі.

### Што рабіць?

Перш чым ісці на рынак за «чужым», варта схадзіць у фірмовыя крамы, буйныя універмагі і прыглядзецца да свайго, беларускага. Можна выглядаць і модна, і стыльна ў айчынным адзенні. Найперш трэба падтрымліваць свайго айчыннага вытворцу. Зразумела, калі ён стварыў канкурэнцыю завезенаму.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

## Адукацыя

### Латвія супраць нелегалаў



У Латвіі без ліцэнзійных праграмаў навучання дзейнічаюць дзесяткі філіялаў розных расійскіх вну, некаторыя з іх нават не зарэгістраваны ў рэгістры навучальных установаў. Прааналізаваўшы вопыт Эстоніі, якая падала на ўсе незаконныя вну ў суд і нядаўна заявіла пра планы скасавання дамоваў аб узаемным прызнанні дыпломаў з Расіяй, латвійскае Міністэрства адукацыі і навукі таксама пачало абагульняць інфармацыю аб незаконных замежных вну. У бліжэйшыя месяцы міністэрства вырашыць, ці паследаваць вопыту эстонцаў – пачаць выкараняць беззаконне судовым шляхам.

Судзіцца з тымі, хто прапануе незаконную адукацыю, можа аказацца складанай справай, бо нярэдка філіялы вну хаваюцца пад шыльдамі курсаў, дыстанцыйнага навучання і экстэрнату. Асобныя выдадзеныя расійскія дыпломы юрыдычна законныя, але ў цэлым яны падрываюць латвійскую сістэму вышэйшай адукацыі, бо не адпавядаюць устаноўленым працягласці і зместу навучанню

### «Ціхая рэвалюцыя» ў краінах ЕС

Еўропа павінна паказаць сябе ў сферы бесперапыннай адукацыі на гістарычнай вышыні сваёй новай рэальнасці, прадэманстраваць сваю здольнасць ўносіць ўклад у агульначалавечую культуру. Да такой высновы прыйшлі міністры адукацыі краінаў Еўрапейскага Саюза на міланскай канферэнцыі, прысвечанай важнай тэме «Развіццё чалавечага капітала ў мэтах сацыяльнага выраўнівання і канкурэнтназдольнасці».

Міністры адукацыі, як заявіў ў заключным выступе камісар ЕС Вівіан Рэдынг і міністр Летыцыя Мараці, трымаюцца наступнага меркавання: «Сацыяльны і эканамічны рост у Еўропе ў значнай ступені залежыць ад палітыкі ў сферы адукацыі. У параўнанні з мінулым, гэтая палітыка павінна ўлічваць новы элемент: тэхналогіі, якія цяпер, састараваюць кожныя пяць гадоў».

«Такім чынам, нам прыдзецца вырашаць праблему, – паведаміла камісар Рэдынг, – як зацікавіць еўрапейскіх грамадзянаў вучыцца пастаянна. Гэта пытанне не толькі сродкаў, але і вобразу мыслення». Таму міністэрства адукацыі, з аднаго боку, і міністэрства працы, з другога, павінны трымацца ўмоваў пастаяннай каардынацыі сваіх дзеянняў.

«У Еўропе, – заявіла Мараці, – у 45 мільёнаў чалавек няма працы, з іх 60% – гэта жанчыны, якія маюць прафесію і дыпломы. Як ім дапамагчы? Новых напрамкаў у сістэме адукацыі не хапае, паралельна з імі павінны здзяйсняцца і новыя сацыяльныя праграмы».

Мэта, якую Еўропа абвясціла ў Лісабоне ў 2000 годзе, вельмі амбіцыйная: «У 2010 годзе Еўропа стане самым канкурэнтназдольным грамадствам у свеце, грамадствам ведаў». «Гэтая мэта здаецца ў большай ступені тэарэтычнай, чымсі практычнай, – кажа камісар Рэдынг, – але ў сапраўднасці на працягу двух гадоў міністры адукацыі праводзяць у Еўропе «ціхую» рэвалюцыю. Таму што раней канцэпцыя адукацыі была нацыянальнай, а цяпер стане еўрапейскай: мы разам акрэслім сільныя і слабыя бакі розных нацыянальных сістэм адукацыі, разам паспрабуем іх аптымізаваць».

### Кітайскім дзецям ускладняюць школьную навуку



Рэальная фінансавая палітыка ў сферы адукацыі, якую праводзіць кітайскі ўрад, на думку прадстаўнікоў ААН, «далёкая ад прынятых у цывілізаваным свеце нормаў».

У дзяржаўным бюджэце Кітая выдаткі на адукацыю складаюць 2% унутранага валавага прадукта, у той час як ЮНЕСКО рэкамендуе, каб гэты паказальнік быў не ніжэй чым 6%. У выніку распачатай Пекінам палітыкі «татальнай эканоміі» ў сферы адукацыі толькі 53% неабходных школам расходаў аплачвае дзяржава. Пры гэтым цэнтр выдзяляе не больш за 8% з гэтых грошай, астатнія выдаткі перакладзены на рэгіянальныя бюджэты. Такім чынам у цяперашнім Кітаі абвешчаная бясплатная адукацыя напалову аплочваецца бацькамі вучняў. Для большасці жыхароў сельскіх раёнаў Кітая гэтыя выдаткі непасільныя. Мільёны дзяцей, асабліва дзяўчынкі, на практыцы пазбаўляюцца магчымасці атрымаць абавязковую ў Кітаі дзевяцігадовую адукацыю.

 



Вольга ІПАТАВА

# Жыццё, асветленае каханнем

**Ад аўтаркі**

З Міколам Ганько мы пазнаёміліся на Беларусі ў 1994 годзе, калі ён каторы раз прывозіў з Канады дапамогу нашым хворым дзецям. Я не памятаю лічбы прывезенага ім, якія называліся ў друку, ды тады сам ягоны прыезд моцна падбадзёрваў нашых людзей - як жа, з самой Канады землякі пра нас клапоцяцца!

Зграбны, высокі, магутны - ён рабіў на ўсіх, хто з ім сустракаўся, надта добрае ўражанне. Спакойныя манеры, прыгожая беларуская мова, заклапочанасць лёсам Беларусі - усё гэта прыцягвала сэрцы. Ды калі ўзгадвалі пра ягоную працу, казалі не толькі - «Гэта зрабіў Ганько». Заўсёды ў гутарцы гучала і: «сям`я Ганько».

Побач з ім, з 1960 і да самага дня смерці ў 1999 годзе, заўсёды была яна - Марыя, альбо, як яе называюць у Згуртаванні Беларусаў Канады, Марыся. Мне пашчасціла быць у ейным утульным доме ў сакавіку 2003 году, дзе мы шмат гаварылі пра нашую Беларусь, пра яе сённяшняе жыццё, а таксама - пра свае сем'і. І, вядома, асноўнаю тэмай нашае гаворкі была дзейнасць спадара Ганько - гаспадара гэтага дома. Я папрасіла спадарыню Марысю вярнуцца ў першыя гады іхняга сужонства пасля таго, як яна раскрыла перада мною старонкі тоўстага альбому з фотакарткамі. І зараз сціскаецца сэрца, як гляджу на іхнія шлюбныя фотакарткі - абое высокія, моцныя, прыгожыя. Ён - у чорным касцюме з гальштукам, яна ў белай падвянечнай атласнай сукні. Здаецца, толькі-толькі ўступаюць у жыццё. Аднак за плячыма ў кожнага - цяжкія выпрабаванні, дарогі, а галоўнае - вайна, якую яны перажылі ў тым, ранейшым жыцці за акіянам, у роднай Беларусі. А яшчэ ў Польшчы, чыімі ґрамадзянамі былі ўсе, хто нарадзіўся ў былой Заходняй Беларусі. А ў Міколы на сэрцы былі і выпрабаванні ў Нямеччыне.

Якімі ж пакручастымі сцежкамі ішлі яны да залі Беларускага Цэнтру, дзе ў царкве, заснаванай іхнімі рукамі і сэрцамі, больш чым паўстагоддзя збіраюцца беларусы Таронта і моляцца вось ужо колькі дзесяткаў гадоў за сваю Беларусь?

Разам з ейным апавяданнем і аповядам самога спадара Міколы, запісаным перад самай ягонай смерцю і надрукаваным у кнізе «Вырваныя бачыны», вяртаюся ў далёкія гады мінулага стагоддзя...

Ён вырас побач з Маладзечнам, на хутары ў Калядзіне. У два гады, сам аб тым не ведаючы, апынуўся польскім грамадзянінам, паводле Рыжскай дамовы, што раздзяліла Беларусь. Скончыў няпоўную сярэднюю школу ў Лебедзеве, а пасля пайшоў у Маладзечанскую гандлёвую школу, якую заснаваў Барыс Кіт.

Яна расказвае пра сябе зараз:

«Я нарадзілася ў вёсцы Шчокаўшчына, гміна Хаценчыцы ў Віцебскай вобласці. У маіх бацькоў нас было дзевяць. Старэйшы брат памёр ад запалення мазгавых абалонак. Маёй старэйшай сястры было тады 18 гадоў. Дату нараджэння – 25 красавіка 1930 года, што было на некалькі гадоў болей, чым у сапраўднасці, мне паставілі пазней, але я пражыла жыццё з гэтай датай, таму яе і ўзгадваю. Каля вёскі быў маёнтак, і пані апекавалася дзяцьмі, сіротамі, а заадно вучыла і іншых дзяцей, якія маглі плаціць. Мае бацькі маглі плаціць гэтыя 12 злотых. Да нас, як памятаю, заўсёды прыязджаў ксёндз, а святара не было. Сям'я была добрая, дружная. Дзяцінства я заўсёды ўзгадваю з цеплынёй. Ды ў час вайны, у 1943 годзе, мой тата памёр, маючы ўсяго пяцьдзесят чатыры гады. Можна сказаць, яго замардавалі партызаны. Яны ж забіралі ўсё, што было ў людзей. Неяк прыйшлі - а ў нас была свіння з малымі парасятамі, і яе застрэлілі. І тату не столькі яе было шкада, колькі яго ўразіў гвалт і нахабства гэтых людзей, тое, як яны сябе паводзілі з ім, гаспадаром. Патрабавалі: «Дзе што знаходзіцца, паказвай! А то застрэлім!» Праз чатыры месяцы ён і памёр.

Калі немцы адыходзілі, трэба было рашаць - заставацца пры бальшавіках ці не? І тады швагра - муж маёй сястры - вырашыў ехаць. Мама засталася, але яна мяне, малую дзяўчынку, адпусціла з сястрой. Не хацела мне гэткай долі, якая чакала яе.

Мы ехалі на фурманцы, вялі за сабой карову. Мяне прыладзілі ззаду на фурманцы, на гэтым парубні. Я і спала там. Мы ішлі праз Вільню, часова засталіся ў Прусах Усходніх, пасля паехалі ў Нямеччыну. І мая сястра тым часам нарадзіла ў вагоне дзіця (яна з'язджала будучы цяжарнай). Я была сведкаю, як бамбавалі Берлін. Гэта было надзвычай цяжка. Сястра з малым дзіцем на руках цягне мяне ў бамбасховішча, а паўсюды разрывы, выбухі...

Пасля заняцця Нямеччыны саюзнікамі мы трапілі ў савецкую зону. Мы было сабраліся вяртацца. Але тады цэлымі эшалонамі сталі гнаць людзей у СССР, і швагра зразумеў, што іх з жонкай чакае...»

Агульная хваля бежанцаў адхлынула назад, да Польшчы, і там сям`я затрымалася. У Постках Марыся нарэшце пайшла ў школу. Мікола Ганько пад час нямецкай акупацыі быў ужо юнаком, і калі за ягоную будучую жонку выбар рабілі старэйшыя, то свой выбар ён рабіў сам.

Калі «гандлёўку» у Маладзечне, дзе ен вучыўся, гвалтоўна зачынілі немцы, адзін са сваякоў параіў ехаць у Альберцін на курсы сярэдніх кіраўнікоў Саюзу Беларускай моладзі (гэта лепш, чым забяруць у паліцыю). Але курсы ён не скончыў: забралі ў Менск, дзе ён неспадзеўку сустрэўся са старшым братам Міхасём. Той ужо быў кіраўніком СБМ – арганізацыі, якая і сапраўды, паводле словаў брата, пасля сталася падмуркам усяе беларускай эміграцыі.

Марыся не пабачыла гэтага, найбольш славутага – і трагічнага – з усіх трох братоў Ганько, што ачоліў самую масавую ў час вайны маладзёвую арганізацыю і пасля недзе ці то прапаў, ці то згубіўся сам на дарогах Беларусі. Затое пасля, калі распачынала жыццё у Канадзе, уклеіла ягоны «Гімн СБМ» у свой першы сямейны альбом – на самай першай старонцы.

Жыцці іхнія з Міколам ішлі зусім блізка. Але яны пра тое яшчэ не ведалі.

Калі Мікола апынуўся ў польскім лагеры ў Нямеччыне, яна толькі выструньвалася з дзіцяці ў падлетка. Вучылася.

А ён тым часам рабіў беларускую справу - шукаў аднадумцаў, ладкаваў сваё жыццё ў выгнанні. Пазнаёміўся у лагеры з паэтам Алесем Салаўём, сяброўства з якім і захапленне яго паэзіяй пранёс праз усё жыццё, разам з ім стаў выдаваць часапіс «Пагоня: Зь беларускага жыцьця». І за сваю друкарскую працу атрымаў мянушку «Вэрцік Посік» па імю героя апавядання, які друкаваў так, што мог толькі размазваць фарбы. Мянушка была не злосная - благія і папера, і фарба сапраўды размазваліся пры кожным неасцярожным руху. Пазнаёміўся і з Алесем Дудзіцкім, які такога ўражання, як Салавей, на яго не зрабіў, але чыю творчасць ён таксама цаніў. Там жа пазнаёміўся і з Алесем Грыцуком і Вольгай Дуброўскай, якія ўжо тады кахаліся.

Марыся, скончыўшы сем класаў, стала вучыцца на курсах, выбіраючы тое, што найбольш прыдатнае. Атрымала тэхнічную адукацыю, стала выязджаць у вёскі. «Мяне вельмі паважалі, бо я гаварыла з імі на той мове, на якой гаварылі яны – а многія ж там казалі па-беларуску. Бывала , дзівяцца – «А панечка, ты ж з намі па-нашаму гаворыш!» А я думаю – што з нашым народам робяць, што яны здзіўляюцца, калі на роднай мове нехта нешта кажа! Мне так гэта балела, што ў іх ёсць гэтая... нізшасць, ці што? І вось прыйшоў час, калі мой брат, які быў у Канадзе стаў мяне клікаць да сябе. Але нельга было выклікаць сястру, у Польшчы тады гэта не дазвалялася. І ён стаў шукаць хлопца, які зрабіў бы мне выклік, бо можна было выклікаць толькі нарачоную. Знайшоў. А тым часам, у 1959 годзе, выйшла рашэнне, што можна выклікаць і сястру».

Ёй спачатку было страшна нават думаць пра эміграцыю – далёка, ажно за акіянам! Але ў Польшчы, як і на радзіме, была тая ж бальшавіцкая ўлада... І яна рашылася. Яна прыляцела ў Таронта 9 лістапада 1960 года

Мікола Ганько таксама выбраў эміграцыю. Ды ягоныя матывы мелі больш выразны палітычны характар. Сталін і ягоны рэжым люта палявалі на тых, хто хацеў незалежнасці Беларусі, аддзялення яе ад Расіі. Адно гэта ўжо лічылася злачынствам. І страшны прывід Сталіна, якога заходнія ўлады пасля сканчэння вайны лічылі за саюзніка, панаваў над лагерамі. Як сказаў адзін з сяброў Міколы: «Лягу спаць, а чорт вусаты сніцца!»

Карныя органы па ўсёй Нямеччыне зацята шукалі тых, хто ў час вайны працаваў «пад немцамі» ці быў у арганізацыях, якія засноўваліся пры іхнім удзеле. З савецкай зоны людзей вывозілі адразу. Тых, хто заставаўся ў амерыканскай, ангельскай і французскай зонах, сталі браць пазней. Дэмакратычныя ўлады Захаду тым пераследам не пярэчылі.

У такіх умовах нічога іншага не заставалася, як ехаць за акіян. Мікола падпісаў кантракт на працу ў 35 мілях на захад ад Таронта, на ферме пры каталіцкім кляштары. Працаваць было цяжка, але ён быў задаволены: добра кармілі і ўсюды было ўтульна і чыста, так што вайна адсюль,


Марыя і Мікола Ганько ў маладыя гады

з-за акіяна, здавалася жахлівым сном. Здзіўляла ўсё, а найболей каровы, якіх даіў апаратам: яны, трыццаць жывёлін, давалі 600 літраў малака! «Каб мець столькі малака, колькі мы бралі з тых 30, нашых каровак трэба было б 60 штук», – узгадае ён праз многія гады ў інтэрв'ю, дадзеным Л. Юрэвічу.

Марыся і Мікола пазнаёміліся на адным з вечароў, што толькі пачыналі ладзіць беларусы – тыя беларусы, якія адчувалі сябе паслядоўнікамі БНР, а не прыналежнікамі да Расеі, як, прыкладам, «старыя беларусы – былыя грамадоўцы, якія ў часе Другой сусветнай вайны поўнасьцю скамунізаваліся» – (з таго ж інтэрв`ю М.Ганько). Арганізацыю – Згуртаванне Беларусаў Канады - засноўваў Кастусь Акула з тымі, хто прыехаў у Канаду пачынаючы з 1946 года: Пітушка, Пашкевіч, якіх сабралася на першы арганізацыйны сход недзе чалавек 16. Гэтая падзея засталася ў гісторыі беларускіх канадцаў як вельмі важная і значная (дарэчы, у лістападзе 2003 г. споўніцца 55 гадоў з дня заснавання ЗБК). Вясной, на першым з'ездзе, куды Мікола Ганько прыязджаў са сваёй фермы, дзе яшчэ працаваў, старшынёй ЗБК выбралі Алеся Грыцука, які паказаў сябе як добры арганізатар. Пазней сябры згуртавання залажылі выдавецкі фонд. У 1959 годзе яны купілі будынак Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру на Сан-Кларэнс, дзе ён знаходзіцца і пасёння.

Так што хлопец, які прайшоў каля стала, дзе сядзела са сваім братам Марыся, і заспяваў, акампануючы на фартэп'яна, песню «Прыляцелі гусі з далёкага краю», да гэтага часу ўжо ўспрымаўся наваколькнымі як адзін з самых вядомых грамадскіх дзеячаў Згуртавання, яго прозвішча прамаўлялі з павагай. Але для яе перадусім гэта быў высокі, прыгожы малады хлопец, дужы і вельмі надзейны – пражыўшы з ім амаль сорак гадоў, яна змагла пераканацца, што тое, першае ўражанне ад яго як ад надзейнага сябра і светлага, добрага чалавека спраўдзілася, як кажуць, «на ўсе сто працэнтаў»... Але і яна была такая ж – дужая, рашучая, разумная, з тых беларускіх кабет, якія некалі стагоддзе за стагоддзем адбудоўвалі пасля бясконцых войнаў мястэчкі і вёскі, цягнулі на сабе плуг ці барану і кармілі дзяцей, калі мужчыны былі на вайне і гінулі на ёй. Цяпер лёс склаўся іначай – але і тут, ужо на чужой зямлі, яна гатовая была гэтак жа тварыць новае, хай сабе і нязвыклае, жыццё сям'і і Жыццё ўвогуле, якое зберагае заўсёды яна, Жанчына...

«Мы пазнаёміліся з Міколам у суботу, а ў нядзелю, пасля набажэнства ў царкве, ён запрасіў мяне паехаць паглядзець Ніягару. Дасюль памятаю тое падарожжа»...

Неўзабаве былі заручыны і, на самы Новы год, вяселле.

Іхняе вяселле было радасным для навакольных, бо нараджалася новая сям'я, і двое, якія знайшлі адзін аднаго ў гэтым вялізным свеце, мацавалі, як цаглінкі мацуюць і складаюць дом, і само Згуртаванне.

Тады ў Згуртаванні было шмат нежанатых хлопцаў - вайна завіхурыла іх у сваім страшным коле, выкінула за акіян, і можа таму свае сем'і, свае новыя гнёзды ўзамен бацькоўскіх, дарагіх і любых, ды ўжо недасягальных, яны ладзілі старанна і нават заўзята, працавалі на іх не шкадуючы сіл. Ды гэтак жа, а яшчэ і болей не шкадуючы сіл, працавалі на беларускую справу. Будавалі сваю, беларускую Царкву, збіралі грошы на яе і на той будынак, дзе маглі б збірацца разам на святы ці на важныя для Згуртавання падзеі, найпершаю з якіх была чарговая гадавіна абвяшчэння БНР. У 1948 годзе яшчэ як след не паспелі адзначыць 30-годдзе акту 25 сакавіка, але з кожным годам гэтае свята набывала сілу і першаступеннасць. Яны адчувалі сябе прыналежнымі да дзесяцімільённай нацыі - а нацыя ўпершыню за многія стагоддзі аб'явіла аб сабе на цэлы свет менавіта 25 сакавіка 1918 году. І як жа няпроста было заявіць аб тым, што тут, у Канадзе, ёсць такая нацыя – беларусы!

Маладая сям'я паднімалася з нічога, прыступка за прыступкай яны абое ішлі да свайго першага жытла, да сваіх першых набыткаў – радыё, пасля тэлевізара, халадзільніка. Нейкі час жылі разам у адной хаце з Грыцукамі і айцом Міхасём. Марыся, у якой былі, як кажуць, «залатыя рукі», наладжвала побыт сям'і і адначасна побыт царквы, якая месцілася тут жа, у Беларускім рэлігійна-культурным цэнтры.

29 красавіка будзе 43 гады, як іх абвянчалі. Гэтая дата вельмі дарагая для спадарыні Марысі Ганько па многіх прычынах. Гэта і незабыўная маладосць, і людзі, якія там прысутнічалі – многія з іх таксама навечна застануцца ў гісторыі. А яшчэ па тым адчуванні шчасця і надзеі на тое, што жыццё іх будзе шчаслівым...

Іх вянчаў святар, які пасля стаў першым іерархам Беларускай Аўтакефальнай царквы – уладыкам Мікалаем. Менавіта сям'я Ганько, у першую чаргу, вядома ж гаспадыня, клапатліва, самаахдана апекавалася ім усе апошнія гады. Ён стаў сапраўдным сябрам іхняе сям'і, і Марыся Ганько і пасля смерці мужа ўсё роўна глядзела за яго адзеннем, гатавала ежу да самых апошніх яго дзён і дапамагала ва ўсіх пытаннях царкоўнага жыцця.

Працяг на стар. 10

 

 



# Мінуў іх век?





Хто вандраваў па Беларусі дзеля знаёмства з памятнымі мясцінамі, з помнікамі гісторыі і культуры, той ведае, што яны ў нас дзвюх катэгорыяў: дагледжаныя цэрквы і касцёлы, якія былі вернуты вернікам цягам апошняга дзесяцігоддзя, і неахайныя, пакінутыя на волю лёсу «свецкія» старажытныя пабудовы, якія належаць мясцовай уладзе. Выключэнне складаюць некалькі аб`ектаў рэспубліканскага значэння (прыкладам, Мірскі і Нясвіжскі замкі), якія намагаюцца прывесці ў прыдатны для турыстычнага наведання стан. Усё астатняе застаецца ў перманентным працэсе разбурэння, якое было для іх акрэслена ў савецкі час па недарэчных ідэалагічных меркаваннях. Ідэалогія пакуль што мала змянілася; адпаведна ледзь ліпіць турыстыка, і па-ранейшаму асуджаны знікаць тыя нешматлікія помнікі гісторыі і культуры, якія перажылі вайну, каб, руйнавацца ў выніку абыякавасці. Дзякаваць Богу, што хоць храмы патрапілі пад дагляд адказных людзей.

У весцы Ішкальдзь стаіць ужо болей за паўтысячы гадоў касцёл Прасвятой Тройцы. Ён быў асвячоны ў 1472 годзе. Пры князю Мікалаю Радзівілу Чорным касцёл перадалі кальвіністам. У 1641 годзе нашчадкі князя-рэфарматара вярнулі касцёл каталікам. У 1868 годзе, згодна з мураўёскім планам праваслаўізацыі беларусаў, расійскія ўлады пераасвяцілі храм у праваслаўную Свята-Траецкую царкву (быў пастаўлены іканастас, надбудаваны дзве цыбульчатыя галоўкі). У 1918 годзе храм вярнуўся да каталікоў. Праз пяцьдзесят гадоў падчас чарговай антырэлігійнай кампаніі касцёл закрылі. Потым ён быў зноў вернуты вернікам і рэстаўраваны. Гісторыя касцёла адлюстроўвае гісторыю нашай краіны. Турыстычны шлях сюды непракладзены, усе экскурсіі арганізуюцца саматужна, аматарамі даўніны. Камітэт па спорту і турызму, здаецца, і не ведае, што такі помнік існуе. Між тым касцёл у Ішкальдзі – архітэктурна-гістарычны рарытэт позняй готыкі на Беларусі. Больш прыгожага касцёла ў нас няма. Вёска Ішкальдзь магла б жыць з турыстычнага бізнесу, але ў ёй няма для прыезжых нічога – ні кафэ, ні крамкі, ні спецыяльнага аўтобуснага маршрута. Старавечная цішыня пануе тут.






Апроч касцёла Ішкальдзь мае паказаць і цікавы этнаграфічны матэрыял. На ўскрайку вёскі яшчэ дажывае свой век дамок, дзе згодна з мясцовай легендай начаваў Напалеон. Праўда гэта ці не, ці Напалеон начаваў, ці які ягоны маршал – пытанне іншае, а цікава што дом захоўваўся з тых часоў. Зараз ён гіне, і ўсе гаспадарчыя пабудовы сядзібы гінуць на вачах. Хутка іх не стане, і легенды не стане.

Недалёка ад Ішкальдзі ў вёсцы Вольна захавалася ўніяцкая Траецкая царква, пабудаваная да 1768 года пры кляштары базыльянаў, які існаваў тут з 1632 па 1839 год. У нашай літаратуры царква ўзгадваецца шматкроць, вось некалькі радкоў з такіх навуковых апісанняў: «Рэгіянальную адметнасць стылістыцы помніка надаюць ступеньчатыя контрфорсы, якія ўмацоўваюць галоўны і бакавыя фасады будынка. Яны выконваюць пэўную канструкцыйную функцыю, але ў большай ступені зрокава падкрэсліваюць хвалістую глыбінна-прасторавую структуру галоўнага фасада і ствараюць на ім дадатковыя святлоценявыя эфекты. Вуглавыя контрфорсы пастаўлены пад вуглом 45° да плоскасці фасада. Выключна цікава, што гэты прыём і форма контрфорсаў непасрэдна запазычаны з шырока вядомага помніка беларускай готыкі Ішкальдскага касцёла, старэйшага за вольнаўскую царкву на 300 гадоў. Дзякуючы гэтаму вольнаўская царква з'яўляецца найбольш яркім прыкладам самастойнасці і нацыянальнай адметнасці віленскага барока».

У свой час Вольна належала вядомаму роду Слізеняў, якія мелі тут сядзібу і стварылі парк, які захаваўся да сёння. Яшчэ нейкі час таму гэты парк меў добры дагляд – сюды нават прывезлі гарадскія атракцыёны («кола агляду», арэлі), зрабілі «стацыянарную» танцпляцоўку, паставілі памятны камень. Цяпер – усё даламанае, разбітае, забытае, забруджанае навейвае сум.

Гаспадар сядзібы ў 19 ст. Рафаіл Ратша Слізень быў выдатным архітэктарам і скульптарам, аўтарам медальёнаў і бюстаў Міцкевіча і Ігната Дамейкі. Тут у Вольна ў яго гасцявалі Ян Чачот і Томаш Зан. Сёння не тое што памятная шыльда ў гонар скульптара блякне пад дажджамі, нават помнік зелякам, палеглым на вайне пагражае распаўзціся на часткі.

З Вольна добрая дарога вядзе ў знакамітую некалі Паланэчку. Калі б мастак Напалеон Орда, які ў пазамінулым стагоддзі зрабіў свае знакамітыя замалёўкі сядзіб і палацаў на Беларусі, мог сёння пабачыць гэтую сядзібу, нічога б ён тут не пазнаў. Паланэчка была ўласнасцю Радзівілаў з 2-й паловы XVIII ст. Вядома, што ў 1777 годзе ў гасцях у Мацея Радзівіла, вядомага кампазітара і драматурга, у Паланэчцы пабываў знакаміты сатырык Д.Фанвізін, аўтар «Недаростка», а наступным стагоддзі – усе вядомыя людзі Наваградчыны адзначаны як частыя госці Паланэчкі.

Пабудаваны ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. у стылі ампір, палац быў праслаўлены раскошай, бібліятэкай, архівам і калекцыямі мастацкіх твораў. У бібліятэцы змяшчалася каля 4.000 тамоў кнігазбору. У палацы вісеў партрэт маладога Мікалая Каперніка і 38 партрэтаў прадстаўнікоў роду Радзівілаў. Перад палацам, дзе цяпер пракладзена шаша, была пейзажная частка парка на чатырох тэрасах, якія спускаліся да ракі. Пад палацам існаваў лабірынт падземных хадоў, парушаны пры будаўніцтве кацельнай.



Палац быў ўнесены ў спіс гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь. Пасля вайны ў ім была размешчана сярэдняя школа. А цяпер нічога не размешчана –ні вакон, ні дзвярэй, гуляе вецер, усё разбураецца. Нехта пачынаў тут рэстаўрацыю, але кінуў. І праз год-два будуць у Паланэчцы руіны «княскага замка».

Ну, і як сюды прывезці турыстаў, і, стоячы сярод абадраных сцен, расказваць пра культуру мінулага Беларусі, палацавае жыццё, унікальную бібліятэку, пра тое, што сюды прыязджаў у госці Уладзілаў Сыракомля, а Напалеон Орда намаляваў той стары прывабнага выгляду палац на памяць наступным пакаленням. Вось такая ў нас памяць.



З Паланэчкі варта з`ездіць ў Сталовічы, дзе знаходзіцца унікальны помнік нашай старасветчыны – касцёл Яна Хрысціцеля, які належаў нясвіжскаму камандорству мальтыйскага ордэна. Першым яго камандорам стаў у 1616 годзе сын Радзівіла Сіроткі – Жыгімонт Караль. Камандорства праіснавала да 1870-х гадоў, гэта значыць два з паловай стагоддзя, калі яго скасавалі расійскія ўлады. У 1863–1866 гадах касцёл быў перароблены пад праваслаўную царкву і на вежах замест каталіцкага усталявалі праваслаўны крыж, які па сёння нагадвае пра паўстанне 1863 года і яго задушэнне. Блізка да царквы ўжо ў наш час пастаўлены памятны камень пра бітву паміж войскамі Міхала Казіміра Агінскага і Аляксандра Суворава, якая адбылася блізу Сталовічаў і сталася пралогам да першага падзелу Рэчы Паспалітай. Ёсць пра што падумаць, стоячы перад гэтым камянём і былым касцёлам беларускіх мальтыйцаў.



Час няўмольны. З кожным днём пакрысе новыя падзеі новыя імёны выціскаюць з памяці старое. Можа, гэта закон прыроды. Але бяда, калі гэта робіцца наўмысна, калі новым пакаленням даецца ўзор абыякавасці, нігілізму, безгаспадарчасці, непавагі, засяроджанасці на дробных інтарэсах бягучай хвіліны жыцця.

**Фотарэпартаж**
**Уладзіміра ШЛАПАКА**





 

Алесь ЧОБАТ

# Над Нёманам і Гаўяй

## Савецкая партызанка і Армія Краёва – баявыя кантакты

Заканчэнне. Пачатак у № 17

### Хто і як карміў партызанаў

«...той карміў, на чыёй зямлі стаялі. Земляроб карміў. Хто ж яшчэ? Неяк яшчэ і немцу падатак плаціў, і самому хапала... Галадаваць пачалі пасля вайны. Пры калгасах, без зямлі, каня і кароўкі. Мне было горш, чым палякам. І цывілям пада мной было горш, чым пад АК-оўцамі. Бо тыя былі, па-за «Сабалеўскім», выключна з тутэйшых, пад канец акупацыі нават праваслаўных змабілізавалі ў сваёй зоне. У мяне былі ж з усяго свету: «акружэнцы» 1941 года, парашутысты, «маршавікі» з Усходняй Беларусі, таксама мясцовыя... Апошніх найменей. Людзі розныя, адным словам... Палякі адрозніваліся большай лучнасцю, адзінай культурай, лепшым паразуменнем паміж сабой, а таксама між сабой і цывілямі.

Нас кармілі і паілі не з любові, Аляксандр Фёдаравіч, бо мужыка трымалі пад дулам. Адно, на што гаспадар быў згодны і што цярпеў, то загад камандзіра, парадак. Не цярпеў і не прымаў ён свавольства марадзёраў - і тады бег да немца з даносам, і на мяне таксама, хоць сваіх марадзёраў я хапаў і расстрэльваў... уласнаручна...»

### Марадзёры і дэзерціры

«...у лесе ваяваць гэта не на фронце ў акопах. Тут кантроль слабы і толку з яго мала. Тут усё добра, пакуль усё добра. А на кожнае нядобра выходзіць кепска. Двойчы за два гады партызанкі тут, над Нёманам, мае патрулі правaронілі нямецкую аблаву - і з уласнага лагера я драпаў, як заяц. І кожны раз меў ... двух-трох забітых і дзесятак параненых ад немцаў, але каля сотні «пропащих»(!!!). Хто не па волі згубіў брыгаду, хто як, але вынік быў той самы: заміж таго, каб шукаць сваіх, бадзяліся ў трох соснах, не зважаючы нават на фельджандармерыю, па тых самых хутарах і вёсках, і марадзёрылі. Гэта ад іх найбольш цярпелі цывільныя.

Прычына таго? Не ведаю. Бо - рана ці позна жандармы іх лавілі. Толькі рэдкія траплялі ў рукі мае разведкі, за вайну я ўвогуле расстраляў толькі шасцёх (!!!). Нейкае памарачэнне розуму нападала, адбівала нават страх прыроджаны, інстынкт самазахавання. Наш савецкі чалавек можа быць чалавекам у калектыве, пад апекай і даглядам. Інакшай шалее, як карова, што адбілася ад статку...».

### «Предатели» і «konfidenci»

«...на партызанскай вайне, тым болей на Беларусі, нікому нельга верыць. Бо тут кожны гаворыць адно, робіць другое, думае трэцяе, верыць у чацвёртае, хоча насамрэч пятага etc. Тут людзі, як дзеці, - усё ад штохвіліннага настрою. Таму і «предателей» тых было (а былобыло!) дзесяткі і сотні толькі кругам адной мае брыгады, бо тутэйшы дзесяць разоў за месяц мяняў сваю пазіцыю, з чарговым сваяком ці зямелем пагаварыўшы. Людзі самі паводзілі сябе пад пагібель праз уласнае легкадумства. На мой розум, і рэпрэсіі АК на Лідчыне не супраць праваслаўных (асабліва вызначаўся палкоўнік Я.Правдзіц-Шляскі. - **А.Ч.**) тлумачацца агульным недаверам польскіх афіцэраў да гэткага баламуцтва і легкадумства. Напэўна ведаю, што былі выпадкі, калі чалавека забівалі толькі таму, бо не ведалі, пабяжыць да немцаў з даносам ці не пабяжыць. Так бы мовячы, па wszelki wypadek як нібы...

У гэтых адносінах каталікі выглядалі лепей - там што ксёндз скажа, тое мае быць. А наш савецкі чалавек без штохвіліннага кантролю і апекі распускаўся імгненна, і сам не мог сказаць ранкам, чаго чакаць ад яго вечарам.

Мноства людзей гінула выпадкова - невядома нават, ад чыіх рук, як і калі. Лес ёсць лес, а ў лесе закон джунгляў... Трэба зважаць таксама і на вясковыя суседскія парахункі, бо я, напрыклад, замучыўся разбіраць даносы і «челобитные» шваргa на шваргa, цесця на зяця...».

### Армія Краёва

«...насуперак прапагандзе нашай пра «польскія банды», АК была рэгулярнай арміяй у нямецкім тыле ажно да лета 1944 года. «Польскія банды» паявіліся менавіта пазней, «при советах», калі Арміі Краёвай ужо не было. У тых «польскіх бандах» былі пераважна тыя палякі... каго не было ў Арміі Краёвай. Людзі з нямецкай паліцыі, дробныя камерсанты, «кулакі» etc. А па вайне - бо стралялі тут да 1956 года! - ужо падрослыя «маладыя». «Ідэйных» там было мала, крымінальных куды болей... Што праўда, па вайне ні ў войску, ні ў «органах» (МГБ ці МВД .- **А.Ч.**) я не служыў, бо спісалі з прычыны ранення на берлінскім фронце, але служылі там мае калегі з войска ў час партызанкі.

Канешне, варшавякі «Сабалеўскага» ваявалі з немцамі лепш другіх і больш другіх. «Сабалеўскі» ўвогуле быў чалавек дзіўны; паводзіў сябе часам скрайне рызыкоўна, маўляў, не я павінен баяцца немцаў, а немцы мяне... Цяпер ніхто не ведае ўжо, як ён яшчэ ў белы дзень, падвячоркам, атакаваў калону СС у дваццаць грузавых аўтамабіляў на дваццаць немцаў у кузаве, і ўсе з аўтаматычнай зброяй, да таго ж у голым полі...

- Там горкі блізка дарогі, - усунуў я свае тры грошы, - гэта на шашы Ліда-Шчучын. Гэта апісала нейкая Тапалянская (?) у *Zapiskah sanitariuszki*; яна служыла ў «Сабалеўскага» ад пачатку да канца, прыйшла з Варшавы і дабралася да Варшавы, паспела да жніўня.

Марцiросаў скасіўся на мяне, нават запнуўся на момант.

- До восстания? (1 жніўня 1944 года Варшава паўстала. - **А.Ч.**). Успели пешком добежать впереди фронта?! Невероятно...

... адным словам, Аляксандр Фёдаравіч, каб мне загадалі - і я зрабіў бы не горш. Але з уласнае ініцыятывы - не... Бо рызыка! Адзін заўчасны стрэл - і мог пакласці батальён ні за што; пашанцавала Каменданту з тым «фактором внезапности»...

Што да другіх камандзіраў АК, - пра «Рагнэра», спадзяюся, чулі? - то ў канцы 1943 года гэтаксама як «Сабалеўскі» знюхаўся са мной, амаль усе, каго ведаю, знюхаліся з немцамі...

Палякі былі лепш за нас арганізаваныя, мелі куды лепшы вывед, іх агентура была паўсюдна, але - горш узброеныя і ... без заплечча. Ні разу за вайну не пачуў над Пушчай англійскага самалёта. Таму шукалі саюзнікаў. «Сабалеўскі» знайшоў вось мяне, а «Рагнэр» гестапаўца ў Шчучыне... («Нейтралітэт» з АК насамрэч падпісаў маёр з віленскага Абвера. - **А.Ч.**).

Агулам ацэньваючы ўсю вайну, у тым, што палякі былі такія, а не другія, вінавата іх камандаванне ў Варшаве і кіраўніцтва ў Лондане. Каб не былі яны так доўга занятыя тым opanowaniem terenu, каб скідвалі ім зброю і радыёстанцыі (такі парадокс, што не мелі!), каб яны весялей ваявалі з немцамі ўжо ад лета 1942 года, то да лета 1943 года, калі сюды прыйшоў я з брыгадай, палякі - з іх арганізацыяй і разведкай, з іх вёскамі ў падкяндзоўскай дысцыпліне - апанавалі б і левы, «савецка-праваслаўны», бераг Нёмана, і не было б мне куды прыходзіць з Магілёўшчыны, і невядома яшчэ, ці наша камандаванне рашылася б на той ідыёцкі загад «раззброіць палякаў»!

Нельга пад час вайны падпарадкоўвацца палітыцы - трэба сабе яе падпарадкоўваць.

### Ізноў камендант «Сабалеўскі»

«Сабалеўскі» выйшаў з Варшавы, маючы не больш 120-ці чалавек (мемуары Б.Тапалянскай, пс. «Бася»); зімой 1944-га маёр Т.Зан (пс. «Борэк») давёў яму з Варшавы аж да ст. Рыбніца за Гроднам яшчэ 150 чалавек падмогі. І tyle. Але - перад аперацыяй «Вострая Брама», калі АК спрабавала адбіць ад гітлераўцаў Вільню, VIII УБК налічваў ...699 чалавек, меў на ўзбраенні 2 гарматы 37 мм (нямецкія, з трафеяў), 12 цяжкіх і 87 ручных кулямётаў (савецкія РПД і нямецкія МГ-42) і 470 стваловъ аўтаматычнай зброі (савецкія ППШ і нямецкія «schmaisser»). Лепш так узброенага батальёна, як «варшаўскі», палякі на Крэсах не мелі. Таму што «Сабалеўскі» не спаў у шапку, а біў немца і браў зброю з забітых, а яшчэ браў з начальніка штаба Марціросава, пускаючы яго на kolejku і адбіваючы нямецкія пагоны за ім. «Сабалеўскі» паявіўся двукротна і памяняў дапатопныя карабіны на савецкія і нямецкія аўтаматы і кулямёты на працягу трох месяцаў. Найбольш таямнічай здаецца яго выправа на Вільню і баі за stare polskie miasto 5-7 ліпеня 1944 года: там VIII УБК праравў абедзве лініі нямецкай абароны, кладучы на тым палову людзей (!)... і ноччу таямніча адступіў у рассыпку на Захад, бо - у Вільню ўваходзіла 5-я савецкая армія... Як быццам і rozkaz GK AK выканаў, і людзей сваіх (хто жывы застаўся) адводзіў з-пад МГБ і Сібіры, куды трапілі многія з наіўнякоў, напрыклад, генерал А.Крыжаноўскі - «Вількь». «Левы» «Сабалеўскі» лепш знаўся на рускіх, чым «эндэкі»... І яшчэ большая для мяне таямніца, як гэта з такім свежым жыццярысам можна было ўбіцца ў кіраўнічыя дзеячы РАХ у камуністычнай Польшчы.

*Друкуецца ў скароце*

# Жыццё, асветленае каханнем

Заканчэнне. Пачатак на стар. 7

Разам з тым, жыццё іхняе сям'і было няпростым: разам з мужам яна перажыла многае, у тым ліку і раскол паміж беларусамі Таронта, да якога, як лічаць многія, спрычыніўся ў 50-х гадах Сяргей Хмара. Тады, у 1953 годзе, як узгадваў Мікола Ганько, беларусы падзяліліся на бэцээраўцаў і бэнээраўцаў і частка, вышаўшы са Згуртавання беларусаў Канады, заложыла Беларускае Нацыянальнае Аб'яднанне і сваю парафію святой Еўфрасінні Полацкай.

Многія даследчыкі эміграцыі выказваюць думку, што гэты раскол значна саслабіў агульныя беларускія сілы, якія б маглі зрабіць нашмат болей. Хаця і так зроблена было нямала. Сведкаю таму – часопісы і газеты, якія апісваюць жыццё эміграцыі ў Канадзе, а таксама шматлікія кнігі, у тым ліку і класікаў беларускай літаратуры, на выданне якіх беларусы ў Канадзе ахвяравалі немалыя грошы, патрэбныя для такіх выданняў. Кнігі гэтыя, з палымянымі радкамі класікаў, будзілі сэрцы, не давалі ім закамянець у абыякавасці. І жалезная заслона над Бацькаўшчынай таксама давала іхняму жыццю трагедыйную «падсветку» – яны верылі ў лепшую будучыню, але рэчаіснасць была такою, што галасы эмігрантаў заглушалі не толькі «глушылкі», але і магутная савецкая прапаганда, якая дзень і ноч лілася ў душы іхніх суродзічаў...

Вялікай трагедыяй для іхняе сям'і, як і для іншых беларускіх канадцаў, стала чарнобыльская катастрофа, якая ў большасці сваёй прыйшлася на зямлі Беларусі. Як толькі стала магчымым, беларусы сабралі грошы і лекі і год за годам сталі ездзіць на сваю Бацькаўшчыну. Узначалілў гэты новы накірунак іхніх клопатаў менавіта Мікола Ганько. Разам з ім заўсёды працавала на гэтыя паездкі і ягоная жонка. І толькі Усявышні можа ведаць, колькім дзецям на Беларусі выратавалі жыццё тыя лекі, якія ён прывозіў, бо чалавечае жыццё можа быць і моцным, а можа быць і кволым, як павуціннe пад ветрам жорсткай навальніцы...

У іхнім утульным доме побач з карцінамі – сапраўднымі шэдэўрамі вышыўкі, зробленымі Марысінымі рукамі – вісяць на сценах партрэт і фотакарткі Міколы Ганько, нібыта ён і не выходзіў адсюль, з гэтых сцен, дзе сам майстраваў многія рэчы. Ды, зрэшты, чалавек жыве столькі, колькі яго памятаюць і кахаюць.

А яна не перастае кахаць яго і, як каштоўныя пярліны, перабіраць у памяці дзень за днём, якія цяпер здаюцца такімі шчаслівымі, таму што Ён быў побач. І будзе побач заўсёды. Перш за ўсё таму, што жыццё яго, як і жыццё ягонай жонкі, ўжо не належыць толькі сям'і – яны, гэтыя жыцці, належаць гісторыі эміграцыі, а праз яе – гісторыі ўсёй Беларусі. Бо людзі, якія жылі для іншых, якія пакінулі пасля сябе светлы, высокі ўздым духу, выходзяць у іншае вымярэнне, і Час вызначае іх асобна.




**Марыя і уладыка Мікалай з грамадой ля магілы Міколы Ганько**

Арсень ЛІС

# Наканаванасць Калымы

Заканчэнне. Пачатак у № 17

***

Толькі быў давезены на Калыму, трапіў на лагпункт № «N», як выклікалі да начальніка турмы. Размова адбылася нечаканая, лапідарная зместам і формай. Рослы, падцягнуты, гадоў трыццаці пяці мужчына, углядаючыся проста ў вочы, рэзка спытаў:

– За што?

Карцела сказаць «Нізашто!», але сказалася простае, абачлівае:

– Вы ж, відаць, чыталі маё «дасье».

– Ерунда! – начальнік секануў далоняй паветра. – Лічыць умееш?

Вязень, з нязвыклым найменнем «зэк» міжволі паціснуў плячыма.

– Некалі вучыўся...

Пытанне было рытарычным, адразу ж пачуў распараджэнне чалавека яўна тут усяўладнага.

– Будзеш загадваць турэмным ларком. Думаю, справішся.

Гэта было ўратаванне. Падстрахоўвала ад перспектывы за дзесяць год ператварыцца ў лагерны пыл, знікнуць у вечнай мерзлаце Поўначы.

***

Хоць зор з турэмна-ларочнага закутку нешырокі, Васілю Усцінавічу бачылася з яго нямала. Ранішні вывад брыгад на прыіскі: вокрыкі канваіраў, сабачы брэх, шэрая плынь шарэнгаў ды вячэрняе вяртанне-прывод, з пераклічкай, матам, лаянкай станавіліся і яго штодзённасцю. Па нешматлікіх кліентах у ларку, па тым, як часта можна было заўважыць зусім незнаёмыя аблічча, меркаваў аб прыбыцці ўсё новых партый асуджаных. Што думалі там, «наверсе», у Крамлі? Смерць Кірава, якога асабіста калісь пазнаў у Баку, ашаламіла, выклікала одум яшчэ там, на волі. Цяпер у мінуты зацішша ў ларку, ноччу на нарах памяць вяртала многае з пражытага-перажытага. Тут аналітыка былога разведчыка прама выводзіла на генсека, яго найбліжэйшае атачэнне. Успыхвалі ў памяці ўражлівыя, важкія словы, сказаныя ў 1929 г. сакратаром Растоўскага абкама падчас публічнай дыскусіі ў партыі: «Цела партыі ўсыплёна хлараформам, пакладзена на апярацыйны стол, і каля яго арудуе мяснік Сталін...» Але з кім было дзяліцца згадкамі, дагадкамі, не з начальнікам жа лагера, які досыць спраўна заглядаў у канцы дня ў ларок, заказваў свае нязменныя сто грамаў наркамаўкі. Быў самотны. Аднойчы сам-насам распавёў уласную гісторыю. У турэмшчыкі трапіў праз асабістую жыццёвую драму. Быў кадравым вайскоўцам. Раз, вярнуўшыся з камандзіроўкі, а яны здараліся нярэдка, заспеў жонку ў чэпкіх абдымках любоўніка. Паклаў маркатлыўца на месцы з табельнай зброі. Жонку пакінуў у спакоі... Узяўшы з сабой адно чамадан, сышоў у казарму. На судзе ўлічылі бездакорную баявую службу, афіцэрскі ранг і адправілі замест камеры ў начальнікі лагера. Быў канец 1938 г., ГУЛАГ абжываў усё большыя абшары вялікай краіны. Процьма турмаў, новых лагпунктаў, лагераў адэкватна патрабавала новых наглядчыкаў. Падчас такіх турэмна-ларковых размоў чарка налівалася і Усцінавічу. Начальніку цікава было паслухаць бывалага чалавека, разведчыка. Напрыклад, як цяперашні яго зэк, будучы сакратаром савецкага аташэ ў Тэгеране, рызыкуючы жыццём, цераз малады наіў усё ж патрапіў атрымаць неабходныя звесткі цераз маладога афіцэра-іранца аб узбраенні эсмінцаў дзяржавы-суседкі...

***

Пра доўгую гасціну дзядзькі Васіля ў Яневічах, Гродне, Смургонях я ведаў з пераказаў, пераважна са слоў стрыечных сясцёр Тамары і Мані, брацельніка Генадзя – завуча адной са смургонскіх школ.

Нельга сказаць, што дзядзькава гасцяванне ў пляменнікаў ды пляменніц, братоў і сясцёр прайшло неарганізавана. Перш-наперш з Кіргізіі, з гарадка Кок-Янгак, тэлеграмай быў выкліканы самы малодшы Юстынаў сын, заблуканы аж у передгор`і Ферганскага хрыбта, за Джалал-Абадам. Сцяпана Дудку закінуў туды лёс палоннага. Ён, як і дзесяткі тысяч заходнебеларускіх ды заходнеўкраінскіх хлопцаў, апранутых у мундзіры польскіх жаўнераў, працаваў над пракладаннем стратэгічных дарог у цяпер ужо савецка-нямецкім прыгранiччы. Напачатку вайны, ужо пад пастрэльванне ўкраінскага партызанскага падполля, лагер ваеннапалонных польскіх жаўнераў з-пад Роўна эвакуіравалі. У Сцяпана была мажлівасць выбрацца з-за дроту. Мог запісацца ў польскае войска, якое ў 1942 г. у СССР фарміравалі палякі-патрыёты на чале з генералам Сікорскім і Вандай Васілеўскай. Статус грамадзяніна даваеннай Польшчы дазваляў яму на гэта. Шмат хто з землякоў, асабліва каталікоў ды нямала і праваслаўных беларусаў, скарысталіся з той аказіі і па вайне апынуліся хто ў Англіі, а хто ў Польшчы. Запісацца «паляком» Сцяпану Дудку, беларусу, праваслаўнаму – значыла ісці супраць натуры. Не таму, што трывала чуўся ў сваёй беларускасці. Трымаўся яе больш стыхійна. Праўда, відаць газеты з Вільні, беларускія, выпісваныя ў свой час яго старэйшым братам Грышкам, сакратаром гуртка Грамады ў Яневічах, былі прачытаны ім недарма, крыху зарыентавалі ў сабе і свеце.

А цяпер Сцяпан Дудка паклаўся на волю лёсу. Пад канец страшнай вайны, аб якой чуў здалёку, выбавіўся з няволі. Выручала ў жыцці бацькава навука сталяравання. Да яго меў нахіл ад прыроды. Пры патрэбе ахвотна дапамагаў бацьку і назіркам засвоіў рамяство, што стала для яго не толькі спосабам здабыць надзённы хлеб, а і душэўнай патоляй. Праз уменне сталяраваць патрапіў выбрацца і з лагеру. Спачатку майстраваў мэблю і рознае начынне начальнікам лагера, затым сталі адпускаць і далей, за лагерныя вароты. Заробкам Сцяпан шчыра дзяліўся з усімі, з кім было трэба. Апынуўшыся на волі ўжо прытомлены жыццёвай дарогай, не спрабаваў пачынаць жыццё нанава, з чыстага ліста, не памкнуўся на Бацькаўшчыну.

У Кок-Янгаку, кіргізскай глухамані, прыстаў наўпрымы да прымужняй удавы Ядвігі, зямлячкі з Вілейшчыны, вывезенай у 1940 г. саветамі. У Яневічах яго так і не дачакалася Волечка Піліпкова, якая горача кахала звонкагалосага пеюна і танцора свайго Сцёпачку. Дажывала Волечка свой дзявочы-жаночы век пры старэйшай – незамужняй сястры. І аднойчы, здаецца, ужо пасля другой пабыўкі Сцяпана ў Яневічах, моцна ўзяўшы ў галаву перажытае, сышла крадком з дому. Знайшлі яе, бедную, толькі праз пару дзён аж пад Сівіцай, нежывою.

***

Браты Васіль і Сцяпан, цяпер сустрэўшыся на бацькаўшчыне, маглі нагаварыцца за ўсё жыццё. Старэйшаму было добра за семдзесят, малодшы таксама ўжо размяняў капу гадоў. Было чым падзяліцца з пражытага.

Малодшы не ў ва ўсім спагадаў старэйшаму, калі той стаў наракаць на зламанае жыццё.

– А ты сам, працуючы ў контрразведцы, хіба не расстрэльваў? Скажаш, пры неабходнасці, нягодніка... Ведаю я пра так званую рэвалюцыйную законнасць... А хто табе даў пэўную мерку чалавечай праўдзівасці?

Потым пляменніцы Мані са слязьмі на вачах казаў пра Васіля: «Ведаеш, а ён расстрэльваў...» Мані, педагогу-філолагу, якая трыццаць з лішкам гадоў была Марыяй Грыгор`еўнай, дзядзька Васіль сказаў, што некалі марыў паступіць у Віленскі настаўніцкі інстытут і сеяць разумнае, добрае, вечнае. І яшчэ, падумаўшы, дадаў: «Не кожнаму ўдаецца выбіраць самому. Нярэдка за чалавека выбірае час».

На закаце дня, павячэраўшы з чаркай, браты хадзілі над населлем, абняўшыся, часам у такой паставе спявалі. На той час у Яневічах пры платах, уздоўж вуліцы грамаздзіліся цэлыя горы карчэўя. У ваколіцы некалькі год таму, як прайшла глабальная меліярацыя. Дзе былі амшарыны, кусты, грудкі лесу, стаялі дубы, урочышчы, званыя Камарышкамі, Ягавінай, Глінішчам, цяпер рассцілалася чыстая роўная прастора. «Галандскі пейзаж», – казаў Васіль пра зmененае роднае наваколле, не то ўхваляючы, не то іранізуючы. «Шкада дубоў, – звяртаўся да малодшага, – некалі на начлезе здаваліся, мроіліся яны мне магутнымі вежамі».

Пра тое, як праводзілася тут меліярацыя, і хто да яе найбольш прычыніўся, дзядзьку расказаў пляменнік Жэня. Ён сам да таго, як паступіць у медінстытут, ажыццявіць сваю мару лекара, адзін час быў старшынёй калгаса «Усход» на Ашмяншчыне. А тут старшынстваваў Сяргей Грышын, зволены хрушчоўскім часам з МУС. У былым, родам з Браншчыны, чэкісце прачнулася сялянская жылка, і ён шчыра ўлёг у калгасны воз. Разбіраўся ў тэхніцы, і калі надаралася паломка, скідаў пінжак, здымаў гальштук, закасваў рукавы... «Пана начальніка з сябе не корчыў», – успаміналі сяляне. За сталом пры чарцы ў калгасным калектыве чуўся сваім, і блізкае атачэнне яго шчыра, не з-пад палкі паважала. Харчовую палітыку партыі лічыў сваёй уласнай. На рабоце, як кажуць, гарэў. Бог тым часам не вельмі шчодра яму адмерыў. Паміраў нестарым. Сябру прызнаўся, што ўзяў, знаць, на душу грэх, калі ў пачатку вайны ў Гомелі ўладай, дадзенай яму на той час як чэкісту, расстраляў начальніка станцыі. Здалося тады яму, маладому, са зброяй у руках і дачкой Дзінай у рэчыўным мяшку за плячыма, што той не пануе над панікай пры адпраўцы эшалонаў з эвакуяванымі людзьмі і дабром. Пэўна, і сам бы на яго месцы ў тых абставінах не справіўся... Але тады малады, гарачы, амбітны ў разуменні свайго прызначэння крута вырашаў лёс чалавека на сваім шляху. Цяпер прыйшла пара самадакоры, вініўся перад мінулым.

***

Раз у Яневічах, калі Серафіма была некуды пайшоўшы, дзве малодшыя Васілёвы сястры Алена і Надзя, адной было ўжо пад семдзесят, а другой – за семдзесят, атакавалі старэйшага брата. Чаму не вярнуўся да першай жонкі і сына, вышаўшы з лагера? Аргументу аб публічным вырачэнні ад мужа, нібыта ворага народа, не верылі. Проста не прызнавалі, казалі аб езуіцкім характары тых адрачэнняў. Паняцце маральнага



імператыву сумленнасці моцна трывала ў свядомасці старэйшага пакалення. Не ведаю, як яшчэ там адпіраўся дзядзька Васіль ад рашучых у сваім наступе сясцёр. Расказаў, што Серафіма, яго цяперашняя жонка – казачка, паходзіла з Надамур`я, з той самай станіцы, адкуль быў родам і атаман Сямёнаў, знаны ў грамадзянскую вайну як праціўнік бальшавікоў, белагвардзейскі генерал.

Серафіма рана аўдавела, яе першы муж энкавэдзіст таксама трапіў пад кола махавіка вялікага тэрору 1930-х гг. Дваццаць тысяч функцыянераў спецведамства краіны Саветаў падзялілі лёс яго ахвяр. І факт гэты – ці не яшчэ адно лішняе сведчанне пра маштаб тэрору, яго гістарычную унікальнасць. Уласна, унікальнасць, вядома, адносная. Неўзабаве знайшліся пераймальнікі, спадкаемцы д`ябальскага вопыту. Рэалізоўвалі яго з рознай ступенню цынізму і жорсткасці ў гітлераўскай Германіі, маодзэдунаўскім Кітаі. Рэкорд жа знішчэння таталітарнай сістэмай уласнага народа ў Камбоджы здзейсніў выпускнік Сарбонскага універсітэта (пасля яго эксперыменту не стала трацiны кхмераў) Пол Пот.

***

У апошнія чатыры дні перад тым, як назаўсёды з`ехаць на Калыму, дзядзька Васіль з цёткай Серафімай спыніліся ў нас з Марынай у Мінску. Яшчэ ў Залессі ў прысутнасці маці я разы два чуў ад дзядзькі Васіля аброненае ў паўзе паміж гаворкі пушкінскае:

*И хоть бесчувственному телу*
*Равно повсюду истлевать;*
*Но ближе к милому пределу*
*Мне всё ж хотелось почивать.*

Была ў яго думка, здаецца, не падзяляная спадарожніцай жыцця, дажыць апошнія гады там, дзе нарадзіўся, у Беларусі. Дзеля гэтага і вырашыў наведаць Камітэт дзяржбяспекі. Спадзяваўся на рэнаме былога ваеннага разведчыка. Я давёў дзядзьку да самавітага будынка на праспекце, а сам застаўся чакаць у цэнтральнай кнігарні, побач.

Успомніўся, не мог не ўспомніць, даўні-нядаўні выклік у гэту ўстанову. Не столькі само сумоўе-допыт, як пытанне, зададзенае там яшчэ аднаму выкліканаму з акадэмічных супрацоўнікаў: «Почему Лис поднимает этих мертвецов?» У мяне к таму часу былі апублікаваны дзве невялікія манаграфіі, прысвечаныя жыццю і творчасці рэабілітаваных вучоных Б.Тарашкевічу і М. Шчакаціхіну...

Візіт дзядзькі Васіля ў высокую ўстанову не здоўжыўся. Не прайшло і паўгадзіны, як ён выйшаў, сумна мне ўсміхнуўшыся. Былому афіцэру контрразведкі недвухсэнсоўна далі зразумець, што кватэра ў Мінску яму «не паложана». Параілі звярнуцца ў адпаведныя дзяржструктуры Ашмян або Сімферопаля, дзе было апошняе месца службы. Дакучаць пытаннямі ў такі момант не выпадала. І ўсё ж я не ўтрымаўся, карцела ведаць, ці пыталіся пра савецкую разведчыцкую службу, ці адно абмежаваліся знаёмствам з дакументамі. Усміхнуўся ў адказ рэшткамі карызны самотных вачэй, сказаў толькі: «Адыграная карта...»

Можа не столькі па маладосці, колькі з-за жыццёвай недасведчанасці я тады так і не зразумеў, ці выйшаў дзядзька Васіль з-пад улады сістэмы, ці асэнсаваў яе схаваную сутнасць. Меў жа жорсткі жыццёвы досвед, пасутнасці, у няпоўных сорак год зламанае жыццё. Па некаторых рэпліках можна было здагадацца аб яго крытычным стаўленні да бальшавіцкіх метадаў кіравання грамадствам. Адчувалася нявыказанае аднак уголас разуменне, што за іх палітычныя і сацыяльныя праекты народ заплаціў нязмерна дарагую цану. Зрэшты, прайшоўшы ГУЛАГаўскія «універсітэты», былы ваенны разведчык сэрца на далоні не насіў. Адчувалася ў ім, ужо пажылым чалавеку, стомленасць жыццём, прыманне прадвызначанага не столькі лёсам, колькі абставінамі. Нечага шкадаваў, з нечым змірыўся.

***

Назаўтра, пакінуўшы Марыну з маленькім Яраславам дома, я выбраўся з гасцямі ў аэрапорт. Мы небавам дабраліся да яго: стары мінскі аэрадром размяшчаўся тады яшчэ пры горадзе. Да адлёту самалёта меўся лішак часу, і дзядзька Васіль прапанаваў прысесці на хвілінку ў буфеце. Гаварылі няшмат. У скупой усмешцы, што час ад часу ажыўляла аблічча пажылога чалавека, таяў і не раставаў да канца сталы сум. Мы выйшлі на пасадачную пляцоўку за нейкіх трыццаць хвілін. Цёця Серафіма прыспешвала падняцца ў самалёт, а дзядзька Васіль марудзіў. Я адышоў перад адлётам на належную адлегласць ад узлётнай паласы, а ён ужо адзін, захінуўшыся ў плашч, стаяў і ўглядаўся ў мяне, нібыта я быў нечым большым для яго, чым проста пляменнік. Апошнім бачымым знакам яго роду? Часцінкай яго зямлі, пакіданай цяпер назаўсёды? Зменшаная адлегласцю адзінокая постаць дзядзькі Васіля ля трапа самалёта здалася мне раптам вартай жалю. І жаль гэты неяк мяшаўся з сумам чагось яшчэ неўсвядомленага ў жыцці, але дарагога і стратнага.

# Самуэль Кміціц

Анджэй Кміціц – герой рамана «Патоп» – набыў сусветную вядомасць. Створаны Генрыхам Сянкевічам вобраз адважнага, схільнага да авантураў аршанскага харунжага Анджэя Кміціца ўжо болей за сто гадоў ачароўвае чытачоў. Невыпадкова, што Фелікса Дзяржынскага за яго адвагу сябры-рэвалюцыянеры называлі «чырвоным Кміціцам». Асабліва папулярным стаў Анджэй Кміціц, калі напрыканцы 70-х гадоў XX стагоддзя польскі рэжысёр Ежы Гофман экранізаваў «Патоп» з Даніэлем Альбрыхскім у галоўнай ролі. І вось дзіўны факт: літаратурны герой, а яшчэ болей герой фільма, захінулі сабой рэальную гістарычную асобу – свой правобраз - аршанскага харунжага Самуэля Кміціца. Часам нават гісторыкі ў сваіх працах Самуэля называюць Анджэем, як, напрыклад, польскі гісторык Гадэло. А для простых людзей Самуэль Кміціц нават знешне будзе ўяўляцца ў постаці Альбрыхскага (гл. здымак).

У свой час (а гэта гады вайны Рэчы Паспалітай з Масковіяй і Швецыяй у 1654–1668 гадах) слава пра «добрага жаўнера» Кміціца, як пра яго казаў вядомы мемуарыст Ян Пасак, зацьміла славу іншых герояў. Кароль польскі і вялікі князь Літоўскі Ян Казімір і сойм Рэчы Паспалітай у 1670 годзе высокімі словамі ўхвалілі подзвігі Самуэля Кміціца. Гэтак і трапіў ён у гісторыю як «слаўны ваяўнік», а пасля стаў правобразам галоўнага героя рамана Сянкевіча.

На жаль, Самуэль не пісаў дыярушаў, ды і мемуараў не пакінуў пасля сябе, у адрозненне ад свайго сучасніка Д'Артаньяна. Не шмат захавалася і дакументальных сведчанняў яго гераічных учынкаў.

Таму сёння цяжка поўнасцю ўявіць вобраз аршанскага харунжага. Можна сказаць, што Самуэль Кміціц вызначаўся смеласцю і мужнасцю на палях бітваў, быў таленавітым водцам. Менавіта яму вялікі гетман Павел Сапега даручаў самыя складаныя і цяжкія вайсковыя аперацыі і начальства пад авангардам. Карыстаўся ён пашанай і павагай сярод жаўнераў. Яго выбіралі нават маршалкам канфедэрацыі. Словам, Кміціц быў воінам, які перанёс цяжкасці некалькіх войнаў, сапраўдным воінам.

Паходзіў Кміціц з беднай аршанскай шляхты Кмічычаў (гэтак гучала іх прозвішча па-беларуску) герба Радзіч. Сям'я шанавала адукацыю. Праславіў яе Мікалай Кміціц, які быў езуітам і пісаў лацінскія вершы. А Самуэль выбраў іншы, чым дзядзька, шлях... воіна. Дакладней, час войнаў вымусіў яго доўгія гады быць пры зброі.

З самага пачатку вайны Рэчы Паспалітай з Масковіяй, у 1654 годзе – Кміціц у войску пад начальствам вялікага гетмана Януша Радзівіла. У баях ён праславіўся сваім гераізмам і атрымаў чын паручніка. Слаўнае імя і асабістыя якасці аршанскага шляхціца вылучылі яго сярод іншых воінаў. Калі ў 1655 годзе Януш Радзівіл прызнаў шведскую пратэкцыю, Кміціц стаў адным з стваральнікаў антырадзівілаўскай канфедэрацыі. Канфедэраты даверылі яму ўзначаліць пасольства да Яна Казіміра. Паслы сустрэліся з манархам у Волборзаве 8 верасня 1655 года. Ян Казімір абяцаў выплату жалавання жаўнерам і перадачу ім маёмасці Януша Радзівіла. За ласкавую паслугу жаўнеры палюбілі Кміціца, а вось Януш Радзівіл узненавідзеў і намерыўся атруціць яго і іншых афіцэраў-канфедэратаў. Дарэчы, захаваўся ліст Радзівіла да свайго слугі Герасімовіча з просьбай атруціць водцаў канфедэрацыі. На шчасце Герасімовіч не выканаў гэтай злахітрай просьбы.

Новы вялікі гетман Павел Сапега набліжае Кміціца да сябе. Разам яны вядуць перамовы з маскоўскім паслом Фёдарам Рцішчавым і дамаўляюцца аб замірэнні. Войска выбірае Кміціца камісарам па падзелу дабра Януша Радзівіла.

Такі імклівы ўзлёт маладога паручніка не закружыў яму галаву. Любоў і давер жаўнераў трэба было апраўдаць, і Кміціц апраўдае іх. На чале сваёй харугвы (паводле рэестра 1661 года яна складалася з 200 гусараў і 140 драгунаў) Кміціц ваюе з шведамі і вызначаецца ў бітве з імі каля Сандаміра, удзельнічае ў баях з сяміградскім ваяводам Юрыем Ракашы. За геройства Самуэль 17 красавіка 1658 года атрымлівае чын харунжага аршанскага і такім чынам становіцца правадыром аршанскай шляхты і захавальнікам сцяга Аршанскага павета.

Адразу пасля назначэння харунжым Кміціц на чале буйнога корпуса быў пасланы Сапегам на Украіну на дапамогу каронным войску. Вярнуўшыся ў Беларусь, ён з дванаццаццю харугвамі здзейсніў рэйд па тылах маскоўскага войска ў раёне Бярэзіны і дайшоў да Лукомля. А ў жніўні 1659 года Кміціц ужо ў Курляндыі б'ецца супраць шведаў. Вайна кідала яго з аднаго канца краіны ў другі. Ледзь паспявалі адбівацца ад ворага. Кожны воін быў героем...

Той, хто чытаў раман «Патоп», памятае, як польскі шляхціц Кукліноўскі хваліўся сваёй доблеснасцю і прызнаваўся, што на Літве ёсць толькі адзін слаўны воін - Кміціц. Сянкевіч меў на ўвазе Анджэя, але сапраўды ім быў Самуэль. Слава героя давала Кміціцу ўладу большую за гетманскую. Ён быў харызматычным правадыром сапежынскай дывізіі, жаўнеры ішлі за ім у бой, і з поля... бою. Было такое ў 1660 годзе. Кміціц узбунтаваў дывізію і ўвёў яе з фронту. Тым самым ён выклікаў гнеў гетмана і караля. Але ж чалавек, які хадзіў пад смерцю, не баяўся гневу начальства: яго баявыя сябры гібелі ад нястачы і голаду, а ўрад забываўся выплаціць заслужанае крывёю жалаванне. Кміціц добра ведаў, што такое жаўнерскі хлеб, каб аддзяліць сябе ад жаўнераў. Дывізія ўтварыла канфедэрацыю і выбрала Кміціца маршалкам.

Урад на справядлівыя патрабаванні канфедэратаў не рэагаваў. Яны нават хацелі пададца пад уладу маскоўскага цара. Гэтаму ўспрацівіўся польны пісар Аляксандр Палубінскі, які вывёў свой полк, а следам за ім пакінулі канфедэрацыю дваццаць тры харугвы. Тым не менш Кміціц застаўся верным клятве маршалка і адстойваў інтарэсы воінаў. Калі ж небяспека зноў пагражала краіне, ён забыўся пра асабістае.



У 1660 годзе царская рацы на чале з князем Іванам Хаванскім пачала новы наступ у Заходняй Беларусі. Кміціц паспяшаўся на падмогу Паўлу Сапегу. 14 мая 1660 года на генеральным коле пад Замбровам ён скасаваў канфедэрацыю і павёў жаўнераў на злучэнне з палкамі Сапегі. Вялікі гетман не наракаў на дзёрзкага харунжага, быў абрадаваны яму. Ён ведаў, што за Кміціцам жаўнеры палезуць у самую пашчу небяспекі і здабудуць перамогу.

І Кміціц павёў войска за сабой на ворага. На чале трынаццаці харугваў ён ішоў наперадзе войска. Каля вёскі Палонка ён разбіў авангард Хаванскага і гнаў ворага дзве мілі. А 28 чэрвеня адбылася бітва паміж войскамі. Са сваёй харугвай Кміціц біўся на левым крыле войска Рэчы Паспалітай. Тут жаўнеры пад шквальным агнём пераадолелі балота і выстаялі ў крывавай сечы. Пасля бітвы Сапега паслаў Кміціца ў пагоню за разбітым Хаванскім. Імклівым маршам Кміціц дасягнуў Міра і разграміў варожы аддзел у 1.500 пяхоты і вызваліў замак.

З Хаванскім Кміціцу давялося сустрэцца яшчэ раз. У тым жа 1660 годзе Сапега пасля бітвы на рацэ Бася паслаў Кміціца да Чэрэі, куды ішоў з новымі сіламі Хаванскі. Каля Друцка Кміціц патрапіў у засаду. Маскавіты нечакана ўдарылі ў тыл. Аддзел Кміціца быў разбіты. Сам водца засеў у будынку і адчаянна абараняўся. Выратаваў яго Стэфан Чарнецкі, славуты польскі палкаводзец, які са сваёй дывізіяй ішоў каля Друцка. Пачуўшы шум бою, палякі перапраўляліся цераз Дняпро і наляцелі на ворага. Абрадаваны Кміціц, які быў на валасок ад смерці, выбег з будынка і адчайна закрычаў: «Дзеля Бога, ратуйце!» Чарнецкі разбіў маскавіцкую засаду, толькі восем чалавек прыбегла да Хаванскага.

Баявы дух пакінуў ваяводу, ён паспяшыў хавацца за полацкія сцены. А Кміціц прагнуў паквітацца з ім за прыкрае паражэнне. Пад яго начала Сапега прыслаў тры тысячы жаўнераў са сваім пляменнікам Крыштафам. Кміціц кінуўся ў пагоню. Толькі праз дваццаць пяць вёрст ён нагнаў ар'ергард і разбіў яго. Але гэта прыпыніла пагоню. Хаванскі дзень і ноч бег да Полацка. І ўсё ж за дванаццаць вёрст ад горада літвіны дагналі яго і адбілі артылерыю, узялі ў палон некалькі палкоўнікаў і полацкага ваяводу. Сваё паражэнне Хаванскі тлумачыў чарадзействам. «Не ведама, ад Бога за наша пагрэшэнне або яны, ворагі, сваёй злоснай хітрасцю, чарадзействам і валхаваннем жах напусцілі». Не чарадзейства вінавата было, а мужнасць і гераізм воінаў Кміціца.

Яшчэ сем гадоў не выпускаў Самуэль Кміціц з рук зброю. Ён удзельнічаў у многіх паходах і баях. У 1663 годзе Кміціц на чале сямнаццаці харугваў хадзіў пад Смаленск і ўзяў Ельню. Навёў на ворага добрай панікі, што ён і не праследваў Кміціца. Наступным годам ён удзельнічаў у няўдалым паходзе войск Рэчы Паспалітай у Северскую зямлю.

Воіны больш змагаліся з маразамі і сцюжай, чым з непрыяцелем. А вярнуўшыся з пахода, Кміціц стаў каля Полацка і блакаваў яго. Маскоўскі гарнізон ледзь вытрымаў блакаду.

Закончыў вайну Самуэль Кміціц палкоўнікам, краснасельскім старастам і слаўным героем. Вярнуўся ён у родную Оршу. Шмат намаганняў давялося аддаць аднаўленню роднага горада. Не забываў Кміціц і пра асабістыя ўладанні. У сваіх маёнтках Городні і Аляшковічы пабудаваў гаці і масты цераз Дзвіну, каб аблегчыць шлях па «Беларускай» дарозе ў Віцебск. Праўда, зрабіў ён гэта не без карысці, бо кароль дазволіў яму браць пошліну з купцоў.

Увогуле, Кміціц, на зайздрасць іншым, праявіў сябе як дбайны гаспадар і нажыў даволі значны капітал, што адрознівала яго ад літаратурнага Кміціца. Той быў марнатравец і заліхвацкі гуляка. Але сваім багаццем Самуэль ахвотна дзяліўся з іншымі. Сярод тых, каму дапамагаў Кміціц, быў, напрыклад, полацкі ваявода Казімір Сапега, сын вялікага гетмана, якому ў 1676 годзе ён даў 11.000 злотых пад залог Асвеі.

Займаўся Кміціц і палітыкай. Не аднойчы менская і аршанская шляхта выбірала яго пасолом на сойм. Прынамсі, ён быў менскім пасолом на элекцыйных соймах, на якіх выбіралі ўладарамі Рэчы Паспалітай Міхаіла Вішнявіцкага і Яна Сабескага. А ў 1676 годзе ён кіраваў левым крылом войска Вялікага княства падчас паходу на турак. Займаў ён і высокія дзяржаўныя пасады стражніка і лясніча Вялікага княства Літоўскага. Для простага шляхціча гэта была вяршыня палітычнай кар'еры, а дасягнуў Кміціц сваёй вышыні сам, праз свой мужны характар, а каб меў знатны род...

Памёр славуты герой 13 красавіка 1692 года. Пэўна, імя яго і згубілася б у гісторыі, але з'яўленне Сянкевічавага «Патопа» выклікала зразумелую цікавасць да правобраза Анджэя Кміціца – рэальнага Кміціца. Аднак не ясна, чаму Генрык Сянкевіч даў свайму герою прозвішча Кміціц, ды яшчэ і званне аршанскага харунжага, калі не апісаў яго жыццё, прынамсі, баявыя прыгоды? Чым растлумачыць выбар пісьменніка? Паспрабуем даць сваю версію.

Самуэль Кміціц быў двойчы жанаты. Імя яго першай жонкі, ад якой у яго нарадзіўся сын Казімір, невядомае. У рамане Анджэй жэніцца на Оленцы Білевіч. Менавіта з гэтага беларуска-жамойцкага роду паходзіла і жонка Генрыка Сянкевіча. Верагодна, пісьменнік і знайшоў у сямейным архіве Білевічаў звесткі пра жаніцьбу аршанскага харунжага Самуэля Кміціца на жанчыне з гэтага роду. Гэта, хутчэй за ўсё, і вызначыла выбар Генрыка Сянкевіча.

Асоба аршанскага харунжага Самуэля Кміціца, вайсковая і жыццёвая ўдача, якая яму спрыяла, прывабілі пісьменніка, а ўслед – і мільёны чытачоў сочаць за яго лёсам.

**Вітак ЧАРОПКА**

# Збігнеў Бжэзінскі:

## Свет страціў давер да палітыкі ЗША

Сорак гадоў назад прэзідэнт ЗША накіраваў у Францыю аднаго высокапастаўленага эмісара. Гэта здарылася падчас кубінскага ракетнага крызісу, і гэтым эмісарам быў былы дзяржсакратар ЗША Дзін Ачэсан. Яму было даручана прасіць прэзідэнта Францыі Шарля дэ Голя аб падтрымцы пазіцыі ЗША ў выпадку, калі крызіс перарасце ў ядзерную вайну, якая можа ўцягнуць не толькі ЗША і СССР, але і ваенныя блокі НАТО і Варшаўскі дагавор. Напрыканцы размовы Ачэсан заявіў дэ Голю: «А цяпер я хацеў бы паказаць вам доказы – здымкі савецкіх ракет з ядзернымі боегалоўкамі». На гэта прэзідэнт Францыі адказаў: «Я не жадаю глядзець на гэтыя фотаздымкі. Слова прэзідэнта ЗША для мяне шмат значыць. Калі ласка, паведайце яму, што Францыя падтрымае пазіцыю Амерыкі».



Збігнеў Бжэзінскі – былы дарадца па нацыянальнай бяспецы прэзідэнта ЗША (1977–1981), былы член Савета нацыянальнай бяспекі ЗША. Цяпер з'яўляецца дарадцам Цэнтра стратэгічных і міжнародных даследаванняў у Вашынгтоне, прафесар амерыканскай знешняй палітыкі ў Школе паглыбленых міжнародных даследаванняў пры Універсітэце Джона Хопкінса. У выдавецтве BasicBooks рыхтуецца да выдання кніга Бжэзінскага аб ролі ЗША ў сучасным свеце «Дылема: дамінаванне ці лідэрства».

Цікава, ці паўтарыў бы сёння словы дэ Голя лідэр замежнай дзяржавы, калі б амерыканскага эмісара адправілі за граніцу, каб заявіць, што краіна X мае зброю масавага паражэння, якая пагражае інтарэсам ЗША? Гэта малаверагодна. Нядаўна ўхвалены знешнепалітычны курс ЗША ізаляваў Амерыку і падарваў давер да яе палітыкі. Гэта негатыўна паўплывала на нашу здольнасць вырашаць праблемы Паўночнай Карэі, Ірана, Расіі і на Блізкім Усходзе.

Ці падтрымае нас хоць якая краіна ў выпадку, калі непазбежная пагроза патрабуе неадкладных дзеянняў? 53 гады таму, пасля таго, як пры падтрымцы Савецкага Саюза Паўночная Карэя напала на Паўднёвую Карэю, СССР байкатаваў прыняцце рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН, у якой прапанавалася даць калектыўны адпор дзеянням Паўночнай Карэі. Такая пазіцыя пакінула Савецкі Саюз у адзіноце, ператварыўшы яго ў краіну-ізгоя.

Страта Злучанымі Штатамі даверу на міжнароднай арэне і рост ізаляцыі ЗША – гэта аспекты трывожнага парадокса: амерыканская моц у свеце дасягнула свайго апагею, але пры гэтым палітычная роля ЗША ў свеце знізілася да самай нізкай адзнакі. Магчыма, нас не любяць за тое, што мы багатыя і магутныя. Пасля трагедыі 11 верасня адміністрацыя ЗША аказалася ва ўладзе параноідальнага ўяўлення пра свет. Сутнасць такога ўяўлення адлюстравана ў заяве прэзідэнта Буша ад 20 верасня 2001 года: «Ці вы – з намі, ці – з тэрарыстамі».

Я мяркую, што адказныя асобы, якія ўхвалілі гэтую фармуліроўку, не ведаюць яе гістарычнага паходжання. Гэты выраз скарыстоўваўся Леніным для таго, каб абвінаваціць сацыял-дэмакратаў у дзеяннях супраць бальшавікоў і апраўдаць рэпрэсіі супраць іх. Гэтая фраза адлюстроўвае пазіцыю нашых высокіх чыноўнікаў, якія гавораць аб «вайне з тэрарызмам». Вайна з тэрарызмам адлюстроўвае бачанне свету, якое з'яўляецца спрошчаным і экстрэмісцкім для звышдзяржавы і вялікай дэмакратычнай краіны з сапраўднымі ідэалістычнымі традыцыямі.

Наша краіна церпіць ад чарговага трывожнага стану. У выніку мы адчуваем дэфіцыт дакладнага ўспрыняцця важнейшых праблемаў нашай бяспекі, такіх, як распрацоўка нашымі ворагамі зброі масавага паражэння (ЗМП). У мінулыя месяцы мы сталі сведкамі, магчыма, самага буйнога за ўсю гісторыю ЗША правалу ў дзейнасці спецслужбаў. Гэты правал быў падсілкаваны дэмагогіяй, якая ўзмацняе страх і падзяляе свет на два лагеры. Мы як грамадзяне павінны задацца пытаннем, ці можа сусветная звышдзяржава забяспечыць глабальнае лідэрства, заснаванае на страху і трывозе. Ці можам мы сапраўды заручыцца падтрымкай нават блізкіх сяброў, калі мы скажам ім: «калі вы не з намі, дык вы супраць нас»?

Гэтае пытанне патрабуе сур'ёзных дэбатаў аб ролі Амерыкі ў свеце, дэбатаў якія не будуць заснаваныя на абстрактным, квазітэалагічным акрэсленні вайны з тэрарызмам. Такое акрэсленне спрашчае сукупнасць пагрозаў, якім яно павінна быць адрасаванае. Гэтае акрэсленне гаворыць аб такім феномене, як тэрарызм, нібы выпускаючы з віду тыя абставіны, што тэрарызм – гэта сродак для забойства людзей. Але гэтае акрэсленне не паведамляе нам, хто менавіта ёсць наш вораг. Гэта можа быць раўназначна сцвярджэнню, што ў часе Другой сусветнай вайны мы вялі барацьбу не супраць нацыстаў, а супраць бліц-крыга. Мы павінны спытаць, хто ж з'яўляецца ворагам? Тэрарысты не проста людзі, якія ненавідзяць свабоду. Яны ненавідзяць канкрэтна некага з нас. Яны ненавідзяць некаторыя краіны. Яны ненавідзяць некаторыя спецыфічныя аб'екты. Але гэта нашмат болей канкрэтна, чым нашы неакрэсленыя квазітэалагічныя фармулёўкі.

Традыцыя правядзення знешняй палітыкі, якая карыстаецца падтрымкай абедзвюх партый, захоўвалася з часоў прэзідэнта Гары Трумэна. І гэта дазволіла нам не толькі выйграць «халодную вайну», але таксама забяспечыла ролю адзінаасобнай сусветнай звышдзяржавы, якая нясе асаблівую адказнасць за стабільнасць у свеце. Мы павінны супрацоўнічаць не толькі адзін з адным унутры краіны, але таксама і з нашымі саюзнікамі за мяжой. Амерыка з'яўляецца адзінаасобнай звышдзяржавай, але яна не ўсемагутная. Мы маем патрэбу ў Еўропе, якая падзяляе нашы каштоўнасці і інтарэсы, нават нягледзячы на тое, што яна не падтрымоўвае нас у пэўных пытаннях.

Але мы не можам будаваць узаемаадносіны, заснаваныя на дыктаце ці пагрозах у адрас тых, хто з намі не згодны. Іншым разам мы можам быць правыя. Іншы раз могуць быць правыя яны. Але ёсць незалежнае ад нашай волі разуменне агульных каштоўнасцяў, якія не павінны быць падпарадкаваны тактычным патрабаванням. Мы павінны імкнуцца пашыраць зону міру і росквіту, каб будаваць стабільную міжнародную сістэму, у якой наша лідэрства можа плённа ператварацца ў жыццё. Гэта азначае падтрымку Еўрасаюза ў яго пашыраным выглядзе. Гэта азначае таксама палітыку паступовай інтэграцыі Расіі ў супольства дэмакратычных дзяржаваў. Пры гэтым, натуральна, трэба захоўваць недвухсэнсоўную пазіцыю ў адносінах негатыўных бакоў расійскай палітыкі, а менавіта – працягу генацыду чачэнцаў, забойства журналістаў і задушэння СМІ.

Мы таксама павінны пераўтварыць сусветную зону канфлікту ў зону міру. Гаворка, найперш, ідзе пра Блізкі Усход. Мы павінны больш ясна атаясамліваць пазіцыю ЗША з палітыкай, накіраванай на ўсталяванне міру паміж Ізраілем і палестынцамі. Палестынскі тэрарызм неабходна адхіліць і асудзіць. Аднак гэта не павінна азначаць падтрымку ўсё больш жорсткай рэпрэсіўнай палітыкі Ізраіля. Замест гэтага Амерыка павінна дапамагчы большасці ізраільцянаў і палестынцаў, якая гатова жыць ва ўмовах трывалага міру.

Мы таксама павінны дамагчыся поспеху ў Іраку. Нельга дапусціць правалу. Але мы павінны задацца пытаннем і аб тым, што з'яўляецца асноваю поспеху. Большая колькасць забойстваў, большая колькасць рэпрэсіяў, больш эфектыўныя меры супраць паўстанцаў? Ці трэба скарыстоўваць сучасныя тэхналогіі, каб знішчыць супраціўленне? Ці поспех будзе забяспечаны коштам намаганняў, накіраваных на тое, каб набліжацца да палітычнага вырашэння?

Калі ў Іраку ўдасца знайсці палітычнае рашэнне, трэба як мага хутчэй выканаць дзве ўмовы: надаць замежнай ваеннай прысутнасці ў Іраку міжнародны характар і ў кароткі тэрмін перадаць уладу ў краіне вярхоўнай іракскай уладзе. Трэба забяспечыць суверэнітэт краіны за кошт перадачы ўлады легітымнаму ўраду Ірака, краіны, якая была абражана.

Якой павінна быць будучыня дактрыны прэвентыўнага ўдару ў адносінах краінаў ці груп, здольных набыць ЗМП? Тут не трэба кідацца ў крайнасці. Дактрына ў яе цяперашнім выглядзе дае права на прэвентыўны ўдар толькі на падставе падазрэння. Мы проста не валодаем дастатковай інфармацыяй, каб з упэўненасцю нанесці прэвентыўны ўдар. Цягам чатырох гадоў я асабіста забяспечваў перадачу разведвальных дадзеных прэзідэнту ЗША. У нас тады было яснае прадстаўленне адносна пагрозаў бяспецы, з якімі мы сутыкнуліся.

Сёння праблема больш складаная. Мы не маем справы са створанымі для нападу на ЗША ядзернымі бункерамі і ваеннымі структурамі, якія мы маглі б нейтралізаваць у выпадку вайны. Новыя пагрозы нашай бяспецы могуць быць нейтралізаваны толькі ў тым выпадку, калі мы будзем мець эфектыўную разведслужбу. На мой погляд, жахліва тое, што калі мы ўвайшлі ў Ірак, мы нават не мелі паняцця, ці ёсць у гэтай краіне зброя масавага паражэння. Наша меркаванне аб наяўнасці там такой зброі палягала толькі на падліках. Гэта азначае, што нашы ваенныя ўступілі ў бітву ў Іраку, не валодаючы ведамі, якія віды ЗМП маюць тыя ці іншыя брыгады ці дывізіі іракскіх узброеных сіл. Яны не ведалі, ці ўзброены іракскія войскі хімічнымі сродкамі. Яны таксама не ведалі, ці ёсць у іракскіх войскаў бактэрыялагічная зброя і ці вядзецца там праца па стварэнні ядзернай зброі.

Усё гэта паказвае на галоўны недахоп у нашай палітыцы нацыянальнай бяспекі. Калі мы жадаем лідзіраваць, мы павінны праводзіць палітыку, пры якой нам будуць давяраць іншыя краіны. Яны павінны верыць таму, калі мы ім нешта паведамляем. Вось чаму нам верылі да вайны ў Іраку. Але нам больш не вераць. Каб выправіць сітуацыю, мы маем патрэбу ў эфектыўнай разведцы.

Гаворка ідзе пра суадносіны паміж новымі патрабаваннямі бяспекі і традыцыямі амерыканскага ідэалізму. На працягу дзесяцігоддзяў мы ігралі ў свеце унікальную ролю, бо мы разглядалі сябе як грамадства, якое верыць у пэўныя ідэалы, якое гатова адстойваць гэтыя ідэалы ўнутры краіны і за яе межамі.

Сёння ўпершыню наша прыхільнасць да ўсталявання ідэалізму ва ўсім свеце пастаўлена пад сумнеў адчуваннем прыступнасці. Мы павінны быць асцярожныя, каб не засяроджвацца толькі на сваіх інтарэсах і не імкнуцца падпарадкаваць усё астатняе ў свеце перабольшанаму адчуванню ненадзейнасці. Нам прыйдзецца жыць у небяспечным свеце. Гэта непазбежна. Мы павінны вучыцца, каб жыць у гэтым свеце з годнасцю, з ідэалізмам і рашучасцю.

«The Washington Post»

## Багдадская будзённасць

У Іракскім нацыянальным музеі адкрылася выстава экспанатаў, скрадзеных марадзёрамі падчас захопу горада амерыканскімі войскамі і затым вернутых у музей. Некаторыя унікальныя экспанаты былі схаваны злодзеямі ў нечаканых месцах. Прыкладам, 150-кілаграмовую медную статую, узрост якой болей за 4 тысячы гадоў, знайшлі на сметніку. З 14 тысяч рэліквіяў, скрадзеных з Іракскага нацыянальнага музея, на сённяшні дзень удалося знайсці толькі 4 тысячы. Грашовы эквівалент такіх стратаў не паддаецца акрэсленню. Пацярпелай можа лічыць сябе ўся сусветная культура.

У часе вайны ў Іраку, распачатай кааліцыйнымі сіламі на чале з ЗША, загінулі ад 21,7 да 55 тысяч чалавек, у тым ліку болей за 10 тысяч мірных іракскіх грамадзян. Такія высновы ўтрымлівае распаўсюджаны даклад міжнароднага аб'яднання «Лекары свету за прадухіленне ядзернай вайны». Яго брытанскі філіял «Мэдэкт» правёў даследаванні на падставе паказанняў сведкаў і шматлікіх дакументаў. У дакладзе адзначаецца, што яшчэ прыкладна 20 тысяч мірных іракцаў атрымалі раненні. У першую іракскую вайну ў Персідскай затоцы ў 1991 годзе, па звестках іракскага боку, загінулі 2.278 мірных жыхароў. Па афіцыйных звестках Пентагона, у Іраку загінулі ўжо 400 амерыканскіх салдат і афіцэраў. Звыш тысячы вайскоўцаў ЗША атрымалі раненні.



Стратам з абодвух бакоў не бачна канца. Кожны дзень у Іраку адзначаецца тэрактамі і рэпрэсіямі, у якіх гінуць людзі. Па некалькі выбухаў на дзень гучаць у Багдадзе, паездкі між гарадамі ўяўляюць небяспеку з-за мін, якія закладваюць іракскія партызаны. Дадатковым раздражняльнікам служаць і жорсткія паводзіны амерыканцаў. Прыкладам, на гэтым тыдні, быў застрэлены амерыканцамі мэр шыіцкага раёна Садр-сіці ў Багдадзе. Смяротныя стрэлы зрабіў афіцэр амерыканскай службы бяспекі за адмову выканаць яго распараджэнне. Выбух напакаванай толам машыны стаў прычынай гібелі 12 італьянскіх паліцэйскіх. Вайну пачынаюць адны, а гінуць іншыя.

# «Несмяротны» газ



Былыя закладнікі і сваякі людзей, якія загінулі на Дуброўцы падчас вызвалення спецслужбамі, заклікалі міжнародны форум па хімічнай зброі, які праходзіў у Маскве, асудзіць прымяненне расійскімі ўладамі газу пры штурме тэатральнага цэнтра. У сваім звароце асацыяцыя пацярпелых ад тэрактаў на Дуброўцы заклікала ўдзельнікаў форуму «прыняць спецыяльную рэзалюцыю аб «нелятальнай» зброі і паставіць пытанне перад адпаведнымі міжнароднымі арганізацыямі аб праверцы нацыянальных арсеналаў спецсродкаў, якія выкарыстоўваюцца сілавымі службамі. «Трагедыя Дуброўкі сведчыць, што «нелятальнай» хімічнай зброі не бывае. Яе прымяненне павінна разглядацца як злачынства незалежна ад абставінаў», – напісана ў звароце.

Грамадскі форум-дыялог «Выкананне Расіяй Канвенцыі аб забароне хімічнай зброі: стан і перспектывы на канец 2003 года» быў арганізаваны няўрадавай экалагічнай арганізацыяй «Расійскі Зялёны Крыж». У ім удзельнічалі прадстаўнікі ЗША, Вялікабрытаніі, Даніі, Італіі, Нідэрландаў, Нарвегіі, ФРГ, Фінляндыі, Швецыі, Швейцарыі, Камісіі Еўрапейскага Саюза, а таксама расійскіх дзяржаўных структураў. Заява ахвяраў Дуброўкі надае дадатковы напал дыскусіі аб так званых «несмяротных» баявых атручвальных рэчывах, якая абвастрылася ў апошні час у сувязі з цікавасцю да іх з боку ваенных ведамстваў заходніх краінаў.

У той час як міністр абароны Вялікабрытаніі Джэф Хун цалкам выключыў выкарыстанне падобных сродкаў, яго амерыканскі калега Дональд Рамсфельд заявіў Кангрэсу ЗША, што ў пэўных сітуацыях такія метады «цалкам дапушчальныя». Працаўнікі «нелятальных» відаў зброі сцвярджаюць, што сама назва – падман. «Калі выкарыстоўваць высокія канцэнтрацыі і людзей хутка не вынесці з будынка, то яны загінуць», – лічыць прафесар Алістэр Хей з Універсітэта Лідса.

«Выкарыстанне «смертаноснага газу», – напісалі ахвяры тэракта ў сваім звароце, – пацягнула за сабой гібель нашых родных і блізкіх, а таксама пажыццёвую непрацаздольнасць і інваліднасць вялікай колькасці закладнікаў, якія выжылі. Відавочна, што ў адносінах да газу, які скарысталі на Дуброўцы, ёсць усе падставы казаць аб парушэнні Канвенцыі».

# Хадаркоўскі забыў у каго скраў «ЮКАС»

Прэзідэнт Пуцін разумее, што метады рынкавай эканомікі даказалі сваю перавагу над дзяржаўнай уласнасцю, і адначасна выкарыстоўвае рынкавыя метады і метады дзяржаўнага рэгулявання. У задумах Пуціна энергетычнаму сектару адводзіцца цэнтральная роля. Вялізныя запасы вуглевададродаў – гэта яго буйнейшы эканамічны і стратэгічны актыў, скарб «сям'і»



У стратэгіі Крамля даходы ад нафты і газу, якія забяспечваюць трацін усіх бюджэтных паступленняў, у будучыні будуць скарыстаны для інвестыцыяў у канаючую прамысловасць Расіі. Аднак Пуцін мае патрэбу ў алігархах, каб эфектыўна кіраваць энергетычнымі актывамі, прычым не толькі ў інтарэсах валадароў і акцыянераў, але таксама ў інтарэсах дзяржавы.

Хадаркоўскі ўкраў «ЮКАС» у дзяржавы ў ходзе прыватызацыі 1990-х гадоў. Бязлітасны і карыслівы алігарх быў шчыльна звязаны з крамлёўскімі чыноўнікамі яшчэ з часоў сваёй працы ў якасці камсамольскага важака. Ён ведаў, як скарыстацца дэвальвацыяй рубля і нестабільнасцю цэнаў на сусветным рынку нафты, каб павялічыць вытворчасць і ператварыць «ЮКАС» у галоўнага ігрока.

Ён задаў тон для новай хвалі расійскага бізнесу, стварыўшы ўзоры дасведчанага карпаратыўнага ўпраўлення і новай карпаратыўнай філантропіі. Ён падтрымаў развіццё адкрытага грамадства ў Расіі, і за кошт вытанчаных PR-акцыяў і ахвяраванняў прэстыжным міжнародным інстытутам дамогся калі і не павагі, то, па меншай меры, увагі сусветнай грамадскасці да сваёй асобы.

Расію пачалі разглядаць як краіну, дзе можна збіць буйны капітал. На жаль, Хадаркоўскі недаацаніў Пуціна. Здавалася, алігарх запамятаваў, што ён захапіў «ЮКАС» падманным шляхам. Ён уявіў, што «ЮКАС» з'яўляецца яго ўласнасцю, якую ён можа выкарыстаць як яму захочацца.

Усяго за два тыдні да арышту Хадаркоўскі заявіў у сваім выступе на форуме ў Фондзе Карнегі: «Расійскае грамадства павінна звыкнуцца з тым, што людзі могуць распараджацца сваімі грашыма па сваім меркаванні». Ён казаў аб продажу акцый «ЮКАСа» і выказваў свае думкі па іншых пытаннях, у тым ліку і палітычных. Ён заігрываў з амерыканскімі нафтавымі кампаніямі Exxon і Chevron, якія былі патэнцыйнымі пакупнікамі ягоных акцый. Замест таго, каб набыць новыя актывы для «ЮКАСа» і Расіі, ён, здавалася, намерваўся распрадаць акцыі «ЮКАСа» для сваёй асабістай выгады.

Нягледзячы на ціск уладаў і арышт сваіх блізкіх партнёраў па бізнесу, Хадаркоўскі рабіў выгляд, што не разумее намёкаў. Тады Пуцін вымушаны быў умяшацца, каб арыштаваць Хадаркоўскага і накласці арышт на частку яго акцый. Паўторная нацыяналізацыя «ЮКАСа» ці любой іншай буйной прыватнай кампаніі будзе слабой альтэрнатывай інавацыйнаму падыходу Пуціна да дзяржаўнага капіталізму.

Расійскі прэзідэнт не хоча мяняць сваю палітыку, але ў выпадку з Хадаркоўскім ён паставіў не на таго каня. Па сутнасці, умяшальніцтва Пуціна ператварыла Хадаркоўскага ў палітычнага пакутніка і зрабіла пераварот у эканоміцы. Магчыма, негатыўныя наступствы крызісу вакол «ЮКАСа» ўдасцца перамагчы. Але, на жаль, Расія не можа пахваліцца тым, што мае шмат здольных алігархаў. У Пуціна мала алігархаў, якім ён можа даверыць кіраванне скарбамі «сям'і», гэта значыць запасамі вуглевададародаў.

**Los Angeles Times**

# Дадуць не болей 10 гадоў

Экс-старшыня праўлення «ЮКАСа» Міхаіл Хадаркоўскі можа правесці за кратамі яшчэ два гады. І ўвесь гэты тэрмін ён будзе чакаць суду. Аб гэтым паведаміў намеснік генпракурора Расіі Уладзімір Калеснікаў: «Згодна з законам затрыманы можа знаходзіцца пад вартай на працягу двух месяцаў, аднак у інтарэсах следства тэрмін можа быць падоўжаны да года ці двух гадоў». Намеснік генпракурора выступіў з гэтай заявай на паседжанні «круглага» стала па пытаннях бяспекі ў Дзяржаўнай Думе.

Таксама Калеснікаў паведаў аб нейкай «устаноўцы», згодна з якой следства павінна прайсці ў «аптымальны тэрмін». Як сказаў генпракурор, болей чым на 10 гадоў пасадзіць Хадаркоўскага ніхто не мае права. «Болей, на жаль, даць не можам», – адзначыў намеснік генпракурора.

Хадаркоўскі, на яго думку, знаходзіцца пад вартай цалкам абгрунтавана. «Мы, – сказаў Калеснікаў, – зацікаўлены ў тым, каб расійскія прадпрымальнікі былі абароненыя. Але да тых, хто крадзе, мы прымаем рашучыя меры ў адпаведнасці з Крымінальным кодэксам Расіі». Ён прызнаў, што Хадаркоўскі «не забіваў, з дубінай на дарогу не выходзіў», але, як ён мяркуе, варта звярнуць увагу на тое, колькі б маглі атрымаць расіяне з 1 мільярда долараў, у раскраданні якога абвінавачваецца бізнесмен.

Нагадаем, што Маскоўскі гарадскі суд вынес рашэнне пакінуць Хадаркоўскага пад вартай да 30 снежня 2003 года.

**Іван АГАРОЎ**

# Грузія пад Шэварднадзе

Хваляванні ў Грузіі працягваюцца з парламенцкіх выбараў. Шэварднадзе, які ў апошнія гады існавання Савецкага Саюза займаў пасаду міністра замежных справаў, абвінавачваецца лідэрамі апазіцыі ў падтасоўцы вынікаў выбараў і махінацыях з мэтай пазбавіць апазіцыю улады. Шэварднадзе звярнуўся за падтрымкай да Аслана Абашыдзе, кіраўніка Аджарскай аўтаномнай рэспублікі. Хоць яны заклятыя ворагі, Абашыдзе, таксама як і Шэварднадзе, імкнецца пакінуць апазіцыю па-за ўладай



У Батумі, сталіцы Аджары, Абашыдзе сабраў на мітынг каля 20 тысяч чалавек. «Дэмагогію трэба спыніць», – заявіў Шэварднадзе перад натоўпам. Абашыдзе далучыўся да яго ў асуджэнні апазіцыі, якая заклікае да адстаўкі Шэварднадзе, хоць да канца яго прэзідэнцкага тэрміну застаецца яшчэ два гады. «Яны абражаюць народ Грузіі, – заявіў Абашыдзе. – Мы павінны спыніць гэтых людзей, якімі рухаюць асабістыя амбіцыі і якія ўцягваюць Грузію ў грамадзянскую вайну».

Інфраструктура Грузіі састарэла, эканоміка ахоплена крызісам, а апарат Шэварднадзе абвінавачваюць у карупцыі. На фоне сутычак у Грузіі, якія на вачах узмацняюцца, расце боязь, што Каўказ уступае ў новы перыяд непарадкаў.

Расія заявіла аб сваёй падтрымцы прэзідэнта Шэварднадзе. Амерыка, якая дасюль таксама яго падтрымлівала, цяпер заявіла, што пасля атрымання паведамленняў аб махінацыях на выбарах, пачала перагляд сваёй пазіцыі.

**Daily Telegraph**

У Грузіі пачаўся збор подпісаў за адстаўку Шэварднадзе. Па словах лідэраў апазіцыі, ён зараз "у паніцы" і мае намер перадаць уладу кіраўніку Аджарыі Аслану Абашыдзе. Па прагнозах апазіцыі, у бліжэйшы час у Грузіі будуць справакаваны хваляванні ў рэгіёнах пражывання азербайджанцаў і армянаў. Лідэры апазіцыі нагадваюць, што ў рэгіёне кампактнага пражывання армян дыслацыравана расійская ваенная база і мяркуюць, што "яе кантынгент прыме ўдзел у падуленні беспарадкаў". Экс-спікер парламента Зураб Жванія лічыць, што "Шэварднадзе і Абашыдзе задумалі палітычную гульню: Абашыдзе становіцца старшынёй парламента Грузіі, Шэварнадзе падае ў адстаўку і ўладу прымае Абашыдзе».

# Амерыканскі заробак нелегала

У Злучаных Штатах склаўся своеасаблівы промысел для маладых людзей з Усходняй Еўропы, які дае адносна высокі заробак.

Федэральныя агенты службы іміграцыі і натуралізацыі выканалі выбарачны рэйд па 60 гіганцкіх універмагах Вол-Март у 21 штаце і затрымалі 250 прыбіральшчыкаў, якія аказаліся нелегальнымі імігрантамі. Магазіны Вол-Март не маюць канкурэнтаў па аб'ёму рознічнага гандлю: 3,5 тысячы універмагаў па ўсёй краіне, у якіх найбольш нізкія цэны. Аказалася, што на такую цэнавую палітыку ўплывае выкарыстанне нелегалаў у якасці прыбіральшчыкаў. Імігранты прыязджаюць на такую працу з усіх канцоў Усходняй Еўропы – з Польшчы, Літвы, Чэхіі, Румыніі, Украіны, Расіі, Беларусі, Казахстана. Галоўным чынам гэта студэнты, інжынеры, менеджэры сярэдняга звяна, адукаваныя людзі, якія маюць доступ да інтэрнэта. The New York Times, якая правяла журналісцкае даследаванне і змясціла як сенсацыю на першай паласе, прыводзіць такі тыповы прыклад. Студэнт Павел (прозвішча назваць адмовіўся) даведаўся з аб'явы на інтэрнэтаўскім веб-сайце, што ў Амерыцы можна добра зарабляць на ўборцы памяшканняў. Ён набыў сабе турыстычную візу, паляцеў у Нью-Ёрк, а адтуль аўтобусам у Лінчбург, штат Вірджынія, дзе субпадрадчык накіраваў яго ў Вол-Март. Павел адразу ж заступіў на начную 8-гадзінную змену. Ён мыў і націраў воскам падлогу. Цягам наступных 8 месяцаў ён працаваў па начах, без выхадных.

Дакладна кажучы, наймаў яго не Вол-Март. Закон забараняе працаўладкоўваць нелегалаў. Каб пазбегнуць адказнасці за парушэнне закона, Вол-Март плаціў кампаніі-падрадчыку па 10 даляраў за гадзіну працы кожнага прыбіральшчыка, а вы, мабыць, наймайце працоўную сілу па сваіх меркаваннях. Падрадчык, у сваю чаргу, наймаў субпадрадчыка і плаціў яму па 9 даляраў. А ўжо субпадрадчык наймаў канкрэтных людзей, прыкладна за 7,5 даляраў за гадзіну, плаціў наяўнымі – ні чэкаў, ні пералічэнняў. Такім чынам Павел зарабляў штомесяц 1.650 даляраў чыстымі. Ён не плаціў падаткаў і не меў медыцынскай страхоўкі на выпадак хваробы.

Высветлілася, што існуюць сотні кампаній-субпадрадчыкаў, іх ствараюць выхадцы з Усходняй Еўропы. Бывае, што такая кампанія трапляе ў федэральную сетку вышуку нелегальных працаўнікоў. Фірму закрываюць, але яна адкрываецца наноў – пад іншай назвай. Адзін з кантактараў – Станіслаў Костэк, родам з Польшчы. Яго кампанія CMS Cleaning абслугоўвала дзесяткі універмагаў Вол-Март у Нью-Ёрке, Пенсільваніі і Вірджыніі. Костэк прызнаў, што наймаў нелегалаў. Па яго словах, «гэта зневажальная праца, мала хто пагаджаецца на яе, хоць пагадзінная плата на 2 даляры вышэй афіцыйнага мінімуму ў 5 даляраў 15 цэнтаў за гадзіну. Але спецыяльна прыязджаюць, каб зарабіць. На радзіме столькі не зарабіш і на самай прэстыжнай працы». Нелегала-прыбіральшчыка, калі яго «вылічаць», адразу высылаюць з ЗША.

**Юры ДУЛЕРАЙН**

# Ці мог Ісус быць жанаты?

Тэлекампанія ABC News выпусціла ў эфір перадачу, у якой даследуецца пытанне аб тым, ці была жонка ў Ісуса Хрыста. Перадача, якая называецца «Ісус, Марыя і да Вінчы» знята на аснове папулярнага рамана «Кодэкс да Вінчы». Кніга, часткова заснаваная на гістарычных фактах, сцвярджае, што Марыя Магдаліна была не блудніцай, а жонкай Хрыста. Мяркуюць, што пасля распяцця Хрыста яна ўцякла з Ерусаліма з яго дзіцем. Гэтая легенда захоўвалася на працягу стагоддзяў сябрамі тайнага таварыства, у якое ўваходзіў і Леанарда да Вінчы. Як лічаць прыхільнікі легенды, мастак пакінуў намёкі на адносіны Ісуса і Марыі ў сваіх творах. Перадача апавядае пра гэтыя меркаванні і прыводзіць думкі некалькіх тэолагаў. Некаторыя з іх адвяргаюць існаванне саюза Ісуса і Марыі, іншыя не выключаюць такой магчымасці.

Аўтар перадачы Элізабет Варгас выхавана ў духу каталіцкай рэлігіі. Па яе словах, на тэмы, закранутыя ў фільме, немагчыма гаварыць, не закрануўшы чыесьці пачуцці, аднак яна намагалася быць максімальна тактоўнай і паважлівай да рэлігіі. Але, на думку, прадстаўнікоў Каталіцкай лігі па абароне рэлігійных і грамадзянскіх правоў, перадача аднабаковая, паколькі колькасць запрошаных на здымкі перадачы прыхільнікаў тэорыі аб жанатым Ісусе перабольшвае колькасць яе праціўнікаў, якія выступалі апанентамі.

**Associated Press**



## Здароўе

# Тлусцець дапамагае GAD 2

Сёння ў свеце 300 мільёнаў таўстуноў пакутуюць ад масіўнага атлусцення. Няшчасных вінавацяць у няправільным харчаванні і «сідзячым» ладзе жыцця, прапануюць ім болей бегаць, мала есці. І вось англійскім і французскім вучоным удалося выявіць, што схільнасць да атлусцення выклікаюць мутацыі гена, якому прысвоена імя GAD2. Ён паскарае з дапамогай ферментаў утварэнне ў арганізме нейрамедыятара – гама-амінабутырычнай кіслаты (ГАМК). Апошняя стымулюе апетыт уздзеяннем на гіпаталамус у мозгу. ГАМК займае цэнтральнае месца ў складанай кішачнай і нейроннай сістэме, якая забяспечвае аптымальную вагу, падтрымліваючы баланс паміж уздзеяннем рэчываў, якія садзейнічаюць апетыту, і рэчываў, якія выклікаюць супрацьлеглы эфект.

Названы ген прысутнічае і ў клетках паджалудкавай залозы, якая выпрацоўвае інсулін (ён зніжае ўтрыманне цукру ў крыві). Але гэты гармон, які звычайна выпрацоўваецца ў часе прыняцця ежы, выклікае пачуццё сытасці. Мутаваны ген затрымлівае выпрацоўку інсуліну, што узмацняе пачуццё голаду і ў выніку прымушае чалавека есці болей і спрыяе атлусценню. Ці прывядзе адкрыццё вучоных да з'яўлення адпаведных медыкаментаў? Вучоныя асцярожна кажуць, што ў бліжэйшы час чароўнай таблеткі ад атлусцення не будзе, і няшчасным таўстунам трэба меней есці і болей рухацца.

**Le Figaro**

## Абранніца ўдачы



**Найбольшы заробак сярод жанчын Вялікабрытаніі мае Дж. Роўлінг – стваральніца Гары Потэра. Яна атрымоўвае 248 мільёнаў еўра на год. Але першае месца ў англійскім спісе займае гаспадар клуба «Чэлсі», расійскі алігарх Раман Абрамовіч. Яго штогадовы даход – 821 мільён еўра. Сусветнавядомы футбаліст Дэвід Бекхэм атрымоўвае ўсяго 37 мільёнаў еўра на год.**

# Мабільнік, які не скрадуць

Буйнейшая японская карпарацыя мабільнай сувязі NTT DoCoMo распрацоўвае мадэль мабільнага тэлефона, у якім для перадачы сігналу выкарыстоўваецца чалавечае цела. Гэтае прыстасаванне ўладкавана ў вузенькі раменьчык, які носяць на руцэ, як гадзіннік, і называецца Finger Whisper.

Каб адказаць на званок, які паступае на Finger Whisper, пачаць ці закончыць тэлефонную размову, карыстальніку дастаткова проста дакрануцца ўказальным пальцам да вялікага, а потым паднесці ўказальны палец да вуха.

Электроніка ў браслеце пераўтварае гукавыя хвалі ў вібрацыі, якія перадаюцца праз косці рукі ў вуха. Паколькі косці перадаюць гукавыя вібрацыі лепей, чым паветра, якасць гука ў Finger Whisper, як мяркуюць, будзе ў некалькі разоў перавышаць якасць гука ў звычайных тэлефонах і падаўляць навакольны шум.

У браслет таксама ўладкаваны мікрафон, а замест нумара карыстальніку будзе дастаткова проста голасна вымавіць яго, і з дапамогай тэхналогіі распазнавання голасу камандаератворыцца ў патрэбны нумар.

Даследнікі NTT DoCoMo працуюць над удасканаленнем Finger Whisper, каб ён мог «здымаць» голас шляхам аналізу рухаў мускулаў вакол рота. Каб ухапіць міяэлектрычныя сігналы, якія нараджаюцца клеткамі мускулаў, карыстальнік будзе павінны насіць дэтэктары-электроды ў выглядзе пярсцёнка на вялікім, указальным і сярэднім пальцах і ў часе размовы трымаць пальцы на шчацэ і верхняй губе.

Пакуль вучоным удалося дабіцца распазнавання галосных і цяпер яны «асвойваюць» зычныя, што больш складана, бо вымаўленне зычных патрабуе больш складаных мускульных рухаў і звычайна яны вымаўляюцца хутчэй, чым галосныя.

Канечная мэта – навучыцца аналізаваць мазгавыя хвалі, хоць тут ёсць рызыка, што карыстальнік мабільнага тэлефона можа ненаўмысна выдаць свае патаемныя думкі пра чалавека, з якім сумовіцца.

# Дыета Сафі Ларэн

Па словах легендарнай Сафі Ларэн, якая пры росце 173 сантыметры важыць каля 60 кілаграмаў, людзі пастаянна яе распытваюць, як ёй удаецца заўжды быць у форме, якой дыеты яна прытрымліваецца

«Я люблю макароны, – тлумачыць яна. – Гэта здаровая ежа, асабліва калі яе падаюць з памідорамі ці соусамі на гароднінай аснове». Галоўнае не спажываць шмат калорыяў за раз, кантраляваць памеры порцый. Для прыкладу прыводзім дыету кіназоркі, разлічаную на тры дні.

**Дзень першы**

*Сняданак:* 170 грамаў апельсінавага соку, варанае яйка.

*Абед:* салата з любой гародніны з 60 грамамі індычкі і нятлустым сырам, пакладзеным на лісце салата.

*Вячэра:* 115 грамаў макаронаў з крэветкамі, салата са шпіната з нізкакаларыйнай запраўкай.

*Дэсерт:* 1 яблык.

**Дзень другі**

*Сняданак:* кубак злакавых грубага памолу з «нятлустым» малаком.

*Абед:* салата са свежых фруктаў і паўкубка прэсаванага тварагу.

*Вячэра:* 115 грамаў спагеці з фрыкадэлькамі з поснай індычкі, салат з поснай запраўкай.

*Дэсерт:* 1 груша.

**Дзень трэці**

*Сняданак:* палова бейгале з нятлустым сырам.

*Абед:* 115 грамаў зялёнай салаты з варанай курыцай.

*Вячэра:* 170 грамаў лазаньні з нятлустага сыра, вялікая салата з рознай гародніны з поснай запраўкай.

*Дэсерт:* 2 персікі.

# Гладыятары Кардовы

Іспанскія археолагі зрабілі ў Кардове сенсацыйнае адкрыццё – знайшлі арэну і гіганцкі амфітэатр плошчай болей за 25 тысяч кв. метраў (145 х 178) і вышынёй са шматпавярховы дом. Гэта толькі на 4 тысячы кв. метраў меней за памеры знакамітага Калізея.

Кардова некалі была сталіцай рымскай правінцыі Беціка (сучасная Андалусія). У І стагоддзі нашай эры, калі быў збудаваны гэты тэатр пад адкрытым небам, Рым разглядаў яго як увасабленне імперскай улады на Захадзе Еўропы. Любімымі тут на ўзор рымскага Калізея былі баі гладыятараў між сабой і з рознымі дзікімі жывёламі. Гэтыя гульні карысталіся вялікай папулярнасцю на працягу некалькіх стагоддзяў. Менавіта ў тыя часы, на думку вучоных, іспанцы палюбілі крывавыя відовішчы накшталт карыды.

Стадыён прыйшоў у заняпад, калі ў IV стагоддзі імператар Канстанцін, які быў прыхільнікам хрысціянства, забараніў такія гульні. Потым арабы, якія акупавалі Кардову, забудоўвалі гэты раён, скарыстоўваючы камяні амфітэатра. У выніку цяперашніх раскопак адкрылася толькі дзесятая частка старажытнага збудавання.Сярод знойдзеных помнікаў тагачаснай культуры ёсць таблічкі, якія прымацоўваліся да месцаў, прызначаных для важных асоб Кардовы. Археолагі знайшлі таксама 20 надмагілляў гладыятараў, якія загінулі на арэне. Надпісы на іх паказвалі ўзрост гладыятара (часцей, 20–25 гадоў), колькасць атрыманых перамогаў і прызоў.

# Міні-«Hummer»

«Hummer» – гэта марка аднаго з лепшых і дарагіх у свеце пазадарожнікаў. Міні-«Hummer» – гэта паменшаная копія прэстыжнай машыны. Называецца яна «Hummbug» – вытворная назва ад словаў «Hummer» і «Bug» (жук). З'явіліся яны на дарогах, калі Галівуду здалося нявыгадным знішчаць на здымках баевікоў сапраўдныя пазадарожнікі. Тады пачалі рабіць паменшаныя копіі і ўжо не шкадуючы ўзрываць іх і плюшчыць. Попыт парадзіў прапанову: у Каліфорніі адкрылася невялікая фірма, якая на аснове першага «Фольксвагена-Жука» пачала выпуск «кішэнных» копій «Хамераў» з пластыкавым кузавам, якія каштавалі ў дзесяць разоў меней, чым іх прататып. Адначасна з'явілася шмат прыхільнікаў міні-хамера, якім хацелася мець яго ў сваім гаражы. Што ўяўляе сабой аўтамабіль? Самы танны варыянт прапануецца ў выглядзе кіт-кара (разабраная машына ў каробках, зборку робіць пакупнік). Набор дэталяў складаецца з пластыкавай «мыльніцы»-кузава, ветравога шкла, святлотэхнікі і дзвярэй. Такі «канструктар» каштуе каля пяці тысяч даляраў. «Люксавы» камплект з



тэнтам каштуе болей. Машынудонар пад разборку шукаюць на месцы. З старога «Жука» здымаюць кузаў, і застаецца рама з усімі механізмамі. На яе манціруюць корпус «Hummbug». І вось на гэтым «крутым» пазадарожніку можна выпраўляцца ў свет на зайздрасць тых, хто не ведае таямніцы яе паходжання.

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас:220005, Мінск, вул. Румянцава, 13

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светоч».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 2057
Падпісана да друку 14.11.2003 (12:00).
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11